

Бельскія школы→3

# Ніва

## ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



За Беларусь→8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 37 (2993) Год LVIII

Беласток, 15 верасня 2013 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Імперыяліст выштурхнуты з асноўнай плыні



Злева: Ігнацы Карповіч, Анджэй Стасюк, Уладзімір Някляеў, Лявон Тарасэвіч

Тры панельныя дыскусіі, прысвечаныя літаратуры, шырокаму колу культуры і палітыкі, дапрапрэм'ерны паказ «Антыгоны» (у беларускім правапісе) Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі, паказ фільмаў і адкрыццё выставы «Elementarz» Роберта Кусьміроўскага склаліся на сёлетні «Трыялог» у Крынках. Сарганізаваны «Вілай Сакрата» (яе прэзідэнт — гарадоцкі фатограф Павел Грэсь), быў прысвечаны памяці вялікага пісьменніка, які памёр у лютым — Сакрата Яновіча. Праект адбыўся ў чатырнаццаты раз. Змяніліся не толькі формула, але і назва; дасюль па думцы яго аўтара — якраз Сакрата Яновіча — гэта быў «Беларускі трыялог».

У першай панельнай дыскусіі, «Літаратура», прынялі ўдзел пісьменнік і палітычны дзеяч беларускай апазіцыі ў Мінску Уладзімір Някляеў і двух пісьменнікаў — прадстаўнікоў галоўнай плыні ў польскай літаратуры: Ігнацы Карповіч (родам са Случанкі Гарадоцкай гміны) і Анджэй Стасюк. Шмат спрэчак выклікаў апошні ўжо на пачатку дыскусіі:

— Я не маю паняцця, што напісаў Сакрат Яновіч. Я не чытаў. Ведаю прозвішча, ведаю пра яго прысутнасць у польскай культуры і ў гэтай частцы Еўропы. Даходзіла да мяне захапленне Сакратам, адначасова асацыяцыя з Беларуссю, гэтым засценкам, еўрапейскай правінцыяй, што гэтае грамадства толькі пачынае будаваць сваю тоеснасць, сялянскую. І гэтае імя Сакрат, ганарлівая спасылка на калыску Еўропы. Гэта дзесьці ў маёй галаве заўсёды стукала. Я прыехаў, каб убачыць першы раз гэтыя ваколіцы.

Уладзімір Някляеў падкрэсліў :

— Творчасць Сакрата Яновіча павінна быць вядомая ў Беларусі лепш, чым цяпер. Творчасць нават тых пісьменнікаў, якія жывуць сёння ў Мінску, Гродне і Брэсце беларусам дрэнна вядомая. У Беларусі адбываюцца агулам працэсы небяспечнага адключэння яе ад сучаснай культуры. Калі Сакрата Яновіча не стала, я адчytаў гэта як вялікую, вялікую страту для ўсёй беларускай культуры, а не толькі для літаратуры .

Звяртаў увагу:

— Чаму Бог пасылае ў свет паляка ці англічаніна? Кожны з іх адкажа: вядома, каб быў палякам, англічанінам. Не кожны беларус адкажа, каб быць беларусам. Праблема вызначэння, пошукаў сябе ў гэтым свеце з'яўляецца адной з галоўных тэм беларускай літаратуры. Сакрат Яновіч у гэтым сэнсе стаў адной з самых драматычных постацей беларускай літаратуры. Кім я, беларус, ёсць у гэтым свеце, відаць ва ўсіх яго творах. Акрамя таго, Сакрат Яновіч бліскучы стыліст, які захаваў найглыбей беларускую мову.

Раней, у гутарцы з журналістамі, адзначыў:

— Як ні дзіўна ў сітуацыі ціску ў Беларусі на нацыянальную свядомасць і культуру, памяць і гісторыю, нягледзячы на ўсе няўдачы, беларуская культура пакуль не масава, але падымаецца. Паявіліся прозвішчы, якія ўваходзяць у кантэкст еўрапейскай літаратуры пасля Быкава ці Караткевіча. У паэзіі хаця б Алесь Разанаў. У прозе Альгерд Бахарэвіч. Ёсць іх шэраг. Бачны рост беларускай літаратуры Беласточчыны, якая ўзнікае сёння, у параўнанні з больш ранім часам, хаця б з дзён росквіту Яна Чыквіна. Відавочна, аднак, таксама тое, дакладна, што на Беласточчыне ўмовы для развіцця беларускай літаратуры і культуры ў цэлым пагаршаюцца. Умовы для іх развіцця чатырнаццаць гадоў таму, калі я быў на першых «Трыялогах», былі нашмат лепшыя, чым цяпер.

Сааўтар «Трыялога», сцэнограф «Антыгоны», сусветнавядомы мастак з Валіл, адзін з бліжэйшых сяброў Сакрата Яновіча Лявон Тарасэвіч чытаў кранаючы раздзел паэмы «Паланэз» Уладзіміра Някляева пра каханне і Беларусь, напісаны ў той час калі пісьменнік быў на першым крынскім «Трыялогу». Пасля ў час панельнай дыскусіі, якая адбылася 6 і 7 верасня ў мясцовай былой сінагозе, сказаў:

— У гэты дзень у Беларусі мы адны. Не толькі Лукашэнка, але і тысячы з нас самі стварылі мяжу ў Беларусі паміж беларусамі і іншымі. Адны з іх жадаюць быць расіянамі, іншыя палякамі. Таксама Сакрат нарадзіўся з гэтай праблемай і з ёй пражыў жыццё. Быў не толькі ў літаратуры. Творчасць і жыццё Сакрата Яновіча паказвае тое, што нас, беларусаў, чакае ў будучыні, калі не павернемся да саміх сябе. Нас чакае страта беларушчыны, якую мы маем у сэрцах і душы. Сакрат Яновіч гаварыў, што да гэтага нельга дапусціць.

Ігнацы Карповіч:

— Сакрат Яновіч адсутнічае ў тым, што можна было б назваць галоўнай плынню літаратуры. Трэба яшчэ прыкласці намаганні, каб знайсці яго кнігі, нават у бібліятэцы. Гэта была вельмі складаная асоба, так як і ягоны спосаб пагляду на свет. Я адчуваю, што Сакрат верыў у моц літаратуры. Літаратура для яго была сэрцам ці ядром, якое фармавала нацыю. Гэтая яго тоеснасць была трайная: лакальнасць, быў згэтуль, з Крынак, дзе была яго Аркадыя, беларускасць і Еўропа, дзе можна размаўляць на роўных з іншымі інтэлектуаламі вялікага фармату. Беларускасць ён проста фармiраваў. Кшталтаваў свядомасць нацыі пакрыўджаных, беларусаў, але і іншых, напрыклад, курдаў. Тых, да каго гісторыя не ставілася найлепш. У Польшчы няма такіх раманаў, якія фарміруюць цэлыя пакаленні.

Анджэй Стасюк уключыўся:

— Праблема Беларусі гэта сапраўды праблема яе нябыту. Сакрат на самой справе не існуе ў польскай культуры, з'яўляецца маргінальным.

Лявон Тарасэвіч:

— Калі я думаю пра Сакрата, дзве трагічныя постаці явяцца на гарызонце. З аднаго боку, Сакрат, які застаўся ў Крынках, Беластоку-Крынках, з другога Аляксей Карпюк, які ўсё жыццё змагаўся за беларускасць і застаўся ў Гродне, дзе да канца змагаўся за яе ў Беларусі.

Ігнацы Карповіч у пэўны момант адцягнуў размову на дыскурс з Сакратам Яновічам:

— Факт неўфармавання нацыянальнай дзяржавы ў старым стылі гэта не памылка або шкода, а гэта, несумненна, вялікая магчымасць для будучыні. Беларусь не мусіць праходзіць праз розныя гадасці, праз якія мы, Польшча, нацыянальная дзяржава, мусім пералезці, каб проста быць людзьмі ці еўрапейцамі. Тут, верагодна, узнікла б некаторая напружанасць паміж тым, што думаў Сакрат, і мною.

Тут уключыўся Адам Міхнік, галоўны рэдактар „Выбарчай газеты», сябра на працягу многіх гадоў з Сакратам Яновічам, адзін з галоўных гасцей пазнейшай дыскусіі, прысвечанай палітыцы:

— Калі б Сакрат Яновіч не культываваў сваю моўную беларускую самабытнасць, быў бы проста польскамоўным.

Уладзімір Някляеў:

— У гэтых умовах, у якіх у цяперашні час знаходзіцца Беларусь, калі размаўляеш у Беларусі па-беларуску, а не па-руску, адчуваеш гісторыю гэтай зямлі.

Лявон Тарасэвіч:

— Сакрат стаяў на пазіцыі, што немагчыма, каб пісаў на іншай мове, чым беларуская. Я пераконваў яго, што мова з'яўляецца толькі медыумам, толькі тым, чым мы кантактуемся з іншымі людзьмі, а трэба так гаварыць, каб іншыя зразумелі.

Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў РП:

— Для тых, хто баіцца слова нацыяналізм, для каго яно з'яўляецца балючым словам, хачу сказаць, што Сакрат Яновіч быў беларускім імперыялістам. І якраз нам гэта падабалася. Ён хацеў, каб беларуская мова была чутна ад Беласточчыны да Смаленшчыны і каб па ўсёй Беларусі былі бачны паўсюль бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня. Гэта была яго вялікая мара. Ён скардзіўся на межы, але жыў бязмежна, у бясконцай беларускай ідэі. Яго словы давалі нам, беларусам, сілу. Прытым памятайма, што ён не вучыўся літаратурнай беларускай мове, толькі вынес яе з дому.

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**



# Фіялетавыя сланы

Успомніўся мне стары вайсковы анекдот, які расказвалі ў час нашай баявой маладосці на ўкраінскай мове. Шаraговы салдат пытае ў прапаршчыка: „Таварыш прапаршчык, скажыце, калі ласка, ці лятаюць кракадзілы?”. — „Ты што, звар'яваў, канешне, не!” — адказвае той. „А вось таварыш маёр нам на палітзанятках казаў, што лятаюць”. — „Ну, разумееш, часам яны сапраўды лятаюць, толькі так нізенька, нізенька...”. Калі каму нечага вельмі хочацца, то можна паверыць і ў лятаючых кракадзілаў і ў фіялетавых сланоў і шмат яшчэ ў што.

Але многія рэчы ў нашым свеце вельмі цяжка вытлумачыць. Асабліва калі справа датычыць вялікай палітыкі. Вось, прыкладам, цэлая суверэнная краіна — Арменія — заявіла вуснамі свайго прэзідэнта, што хоча ўвайсці ў адзіны мытны саюз з тымі дзяржавамі, што ўжо зліліся ў экстазе глыбокай інтэграцыі. Але ж чакайце, паглядзім на мапу свету — Арменія не мае нават супольнай мяжы ні з Казахстанам, ні з Расіяй, ні тым больш з Беларуссю... Якая ж тут можа быць адзіная мытная прастора?! Нібыта гэтая Арменія толькі што збіралася ў Еўрасаюз, але нешта нашчадкам старажытнай Урарту радыкальна перамкнула ў галаве. Хто растлумачыць?...

А кіраўнік Беларусі ў сваёй прамове прапанаваў браць з тых насельнікаў нашай краіны, хто рэгулярна ездзіць па закупы ў Польшчу ці Літву, па сто долараў. Маўляў, возяць усялякае барахло з-за мяжы ў той час, як мы сваім такім барахлом завалены. Тут то я з ім згодны — у тым сэнсе, што няма чаго ім так часта ездзіць, даўно пара вярнуць гэтых людзей, якія суткамі стаяць на памежных пераходах, у сем'і і ў беларускую рэчаіснасць. Але пытанняў у мяне ўсё роўна шмат застаецца — чаму кіраўнік дзяржавы называе тавары айчыннай вытворчасці „барахлом”? Чаму гэтую пошліну трэба будзе плаціць у памеры 100 долараў, а не 1 мільён беларускіх рублёў? Увогуле, чаму розныя страхоўкі трэба плаціць беларускаму грамадзяніну ў еўра? Можа для таго, каб скупіць усе гэтыя ненавісныя еўра і абваліць эканоміку Захаду?! А яшчэ — калі гэтыя небаракі — трансгранічныя „чаўнакі” перастануць валэндацца тудысюды праз мяжу — куды іх падзець — усё ж дзесяткі тысяч чалавек? Можа іх у войска адправіць усіх. Якраз жа зараз у Беларусі, не інакш як да ўгодкаў бітвы пад Воршай, супольныя вучэнні „Захад-2013” з войскам Расійскай Федэрацыі. Назва вучэнняў таксама да канца незразумелая — ці гэта мы „Захад”, ці гэта мы з братнім рускім народам супраць Захаду? Хто растлумачыць?

А ў школах пачаўся новы навучальны год. У беларускіх школах рускі навучальны год. За летніе міжсезонне ўсе гарадскія школы зазналі і істотнае знешняе абнаўленне — усе іх тэрыторыі абгарадзілі высокім металёвым плотам. Зроблена гэта нібыта з імкнення да бяспекі дзяцей. Плот спярша планавалі паставіць з тых бакоў, дзе на школьную тэрыторыю заязджаюць і паркуюцца аўтамабілі. Але гарадзіць — дык гарадзіць, каб і варона не праляцела. Як кажуць у народзе, дай дурню брытву, то ён і зарэжацца. Цяпер тыя ж школьнікі канікуламі і ў вячэрні час, калі гэтыя брамкі зачынены, лезуць і скачуць праз плот, рызыкуючы скруціць шыю ці зламаць ногі. А старэнькія бабулькі, якія змушаны дабірацца да прыпынкаў грамадскага транспарту кругамі, абыходзячы гэтыя недаступныя школы, як нейкія сакрэтныя аб'екты, пасылаюць у паветра ласкавыя словы.

І вось я падумаў — як бы добра займець „Энциклопедию идеологического работника” — угледзеў я днямі гэтую тоўстую кніжку на экране аднаго з тэлеканалаў Беларусі. А вось у кнігарнях яе нешта нябачна. Вось там бы, у гэтым грунтоўным томе, напэўна адразу знайшоў бы ўсе адказы на пытанні, якія цяжка зразумець і асэнсаваць. І напэўна тады б паверыў — і ў карысць адзінай мытнай прасторы з Расіяй, і ў радасць бязвізавага рэжыму з Узбекістанам. І ў тое, што сланы ад прыроды зялёнага і фіялетавага колеру, а кракадзілы лятаюць, хай сабе і нізенька.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Сялянскія матывы ў скандынаўскай літаратуры



У чым падобныя празаічныя творы такіх беларускіх пісьменнікаў як Іван Мележ, Максім Гарэцкі, Іван Пташнікаў ці Кузьма Чорны да твораў шведскіх, нарвежскіх ці фінскіх пісьменнікаў канца ХІХ і пачатку ХХ стагоддзяў? А менавіта маецца шмат падобнага ў тэматыцы, а нават у сацыяльнай праблематыцы тых розных літаратур. Асабліва цікавіць мяне літаратура сусветнага нурту рэалізму ды пісьменнікі па тэматыцы падобныя з так выдатнымі аўтарамі як Эміль Заля, Чарльз Дзікенс ці Віктар Гюго. Скандынаўскай літаратурай я захапіўся выпадкова, шукаючы ў інтэрнэце інфармацыю пра лаўрэатаў Нобелеўскай літаратурнай прэміі. Потым пачаў я чытаць біяграфіі і творы скандынаўскіх пісьменнікаў.

Непаўторнасць скандынаўскай літаратуры заключаецца ў яе глыбокім псіхалагізме, а пры тым маралізме, вынесеным з народных мудрасцей ды рэлігійнасці скандынаўскага народа. Нарвежскі пісьменнік Трыгве Гульбрансен, шведскі — Кнут Гамсун ці фінскі — Франс Эміль Сіланпяя гэта нацыянальныя песняры прыгожага пісьменства сваіх народаў. Яны, так як большасць класікаў беларускай прозы, выводзяцца з сялянскага этнасу (па-за Гульбрансенам) ды іх творы ў пэўнай ступені аўтабіяграфічныя. Асабліва раман фінскага лаўрэата Нобелеўскай прэміі Франса Эміля Сіланпяі „Праведная беднасць” выразна паказвае глыбокі падзел паміж багатымі землеўласнікамі ды беднымі сялянамі, якія арэнду зямлі адпрацоўвалі ў сваіх багатых паноў. Драматызм ды цяжкае жыццё галоўнага героя рамана „Праведнай беднасці” пад панскім прыгнётам глыбока адлюстроўвае падобныя рысы лёсу фінскага селяніна ды беларускага селяніна ў XIX стагоддзі. Сіланпяя дакранаецца не толькі да матэрыяльнага стану сялян, але і да нацыянальнага стаўлення фінскага народа, які быў пад палітычным ды моўным уплывам Швецыі. Тыя падобныя гістарычна-сацыяльныя рысы не чужыя таксама нам, беларусам, якія былі пад уплывам рускай імперыі ды пад прыгнётам польскіх паноў. Асабліва ідэалогія нацыянальнага станаўлення фінскага народа вельмі падобная да нашаніўскага перыяду ў пачатку ХХ стагоддзя.

Затое шведскі пісьменнік Кнут Гамсун у рамане „Сокі зямлі”, узнагароджаным Нобелеўскай літаратурнай прэміяй, паказвае вялікую радасць селяніна ад незалежнасці, якую шведскі мужык выпрацаваў гадамі цяжкай працы на гаспадарцы. Яднанне селяніна з зямлёю, як матуляй-карміцелькай свайго народа, паказвае ўдзячнасць селяніна Богу, які дае ды забірае ўраджай. Сам Гамсун, хаця быў пісьменнікам, усё жыццё прапрацаваў фермерам. Параўноўваючы творчасць Гамсуна з Трыгве Гульбрансенам (раман „А лясы вечна пяюць”) заўважаецца падабенства ў тым як вялікую ролю ў жыцці чалавека адыгрывае незалежнасць ды працавітасць. Менавіта цяжкая праца гэта дарога да незалежнасці, а прытым да свабоды на сваёй зямлі. Гэтае багацце, здабытае цяжкай працай галоўнага героя рамана „А лясы вечна пяюць” выклікае пашану людзей з поўдня Нарвегіі да яго як да новага пана. Гэтая тэма застаецца надалей актуальнай на той час. Цяжкая праца чалавека вызваляе пашану акружаючага свету.

Ва ўсіх згаданых раманах найважнейшую ролю адыгрывае наканаванне як з'ява незалежная ад самога чалавека, але плывучая ад чалавечага лёсу. Таксама пашана Бога як творцы, які дае ды забірае чалавечае жыццё сямейнікаў рамана „Праведная беднасць” Франса Эміля Сіланпяі ці рамана „А лясы вечна пяюць” Трыгве Гульбрансена паказвае слабасць чалавечага роду, які знаходзіць паратунак у малітве да Бога. У пэўным сэнсе смерць герояў рамана „Праведная беднасць” вызваляе герояў ад цяжкіх зямных цярпенняў. Смерць сына-калекі Віля ці хворай на рака жонкі героя становяцца сімваламі спачування вясковаму народу. Вобраз трагічнай ды заўчаснай смерці брата галоўнага героя рамана Трыгве Гульбрансена становіцца для малодшага брата Дага асноўным момантам, каб стаць прадаўжальнікам нарвежскага роду. Дарэчы, па суровым нарвежскім звычаі толькі найстарэйшы з братоў мог жаніцца, а малодшыя служылі яму памагатымі. Героі раманаў шукаюць адказаў на свае ўнутраныя праблемы, што спрычыняецца да ўнутранага закрыцця галоўных герояў перад блізкімі сямейнікамі. Часта прырода ў скандынаўскай літаратуры становіцца сімвалам змагання людской натуры з суровым скандынаўскім кліматам. Амаль не расплачваецца сваім жыццём галоўны герой рамана Даг, які спадае з Гары Смерці ўніз. Дарэчы, Даг у змаганні з суровымі ўмовамі не знаходзіць адказу на жыццёвыя непаразуменні з жонкай.

Герой Гамсуна з рамана „Сокі зямлі” сваё жыццёвае здзяйсненне знаходзіць як у цяжкай працы, так і ў жонцы ды дзетках, як прадаўжальніках чалавечага роду. Матыў змагання чалавека з прыродай гэта паказанне чалавека як залежнай адзінкі.

**Юрка БУЙНЮК**



**Вачыма еўрапейца**

# Пракурор звольнены

У апошнія дні СМІ ababегла інфармацыя аб звальненні з пасады па ўласнай ініцыятыве кіраўніка Раённай пракуратуры Беласток-Поўнач Войцеха Залескі. Менавіта ў гэтай пракуратуры тры месяцы таму было спыненае адно з расследаванняў датычных малявання свастык на адным з беластоцкіх будынкаў. Гэтая справа ўпісалася ў цэлы шэраг выпадкаў на расісцкай, нацысцкай і ксенафобнай глебе, якія падаў у пракуратуру пад пераслед Рафал Гавел з тэатра „Trzyrzecze”. У выпадку адмовы ва ўзбуджэнні разбору, якая прывяла да вызвалення пракурора Залескі, зараз непрацуючы ў ёй пракурор Давід Рашкоўскі аргрунтоўваў: „(...) Трэба спасылаца на значэнне сімвала свастыкі. Гэты знак як правіла, у форме роўнабаковага крыжа з папярочкамі сагнутымі пад прамым кутом. Назва „свастыка” родам з санскрыту і абазначае „прыносячы шчасце, удачу” („свасті” — поспех, росквіт; ад „су” — добры і „асті” — ёсць, -ка — субстантыўны суфікс). У цяперашні час у Еўропе і Амерыцы гэты знак асацыюецца амаль выключна з Адольфам Гітлерам і нацызмам, у Азіі з'яўляецца шырока выкарыстоўваным сімвалам поспеху і росквіту. У выніку анексіі свастыкі на сімвал Трэцім Рэйхам, гэты сімвал часам памылкова лічыцца германскім знакам. Свастыка па-ранейшаму выступае ва ўсім свеце (па-за Аўстраліяй) ад старажытных часоў. Адзін з самых старажытных малюнкаў з матывам свастыкі находзіць з палеаліту — такім чынам яму каля 10 тысяч гадоў. Свастыку адкрывалі ў знаходках з канца неаліту на Блізкім Усходзе, затым у Вавілоне і ў хетаў. У бронзавым веку была вядомай у Троі, Мікенах, Скандынавіі, а затым і ў Грэцыі, Італіі, Кітаі, Японіі. Гэты знак быў таксама выяўлены на палесцінскіх сінагогах 2 тысячы гадоў таму (крыніца: Вікіпедыя — http://www.pl.wikipedia.org ). Перамяшчаючы вышэйпададзеныя развагі на канву гэтага выпадку, немагчыма бачыць у намаляваным знаку, прадстаўляючым свастыку, заахвочванне да фашысцкай сістэмы дзяржавы. Нават калі выказаць здагадку, што злачынца дзейнічаў з мэтай садзейнічання сімвалу ўсхваляючаму нацызм, то яго замаляванне пазбавіла гэты малюнак любой передумовы, і нават паказала крытычнае стаўленне грамадства да сімвалаў такога тыпу. Зыходзячы з гэтай здагадкі трэба было адмовіць ва ўзбуджэнні крымінальнай справы, пры ўстанаўленні, што дзеянне не змяшчае ў сабе законных рыс забароненага дзеяння”.

Я згадваю гэтае абгрунтаванне так шырока, таму што гэта прыклад — я спадзяюся, што ўнікальнай — „цямноты”, невуцтва толькі некаторых, на шчасце, прадстаўнікоў правасуддзя, за якімі павінна сачыць Феміда — грэцкая багіня, якой павязка не засланяе аднак здаровага агляду рэальнасці. Пасля адкліканія пракурора Залескі хацелася б верыць, што Феміда, якая трымае ў руцэ шалі ў збалансаваным стане, будзе натхняць іншых пракурораў і суддзяў да адпаведнага трактавання па характары дзеяння тых, хто здзяйсняе акты расізму ці ксенафобіі. Таму веру ў словы, якія выказаў нядаўна генеральны пракурор Анджэй Сэрэмэт:

— Барацьба са злачынствамі такога тыпу [на глебе расізму і ксенафобіі — М. Х.] павінна быць прыярытэтам для паліцыі і пракуратуры, таму што гэтая з'ява пагражае сацыяльнаму парадку. Адсутнасць моцнага адказу на гэты від злачынстваў можа прынесці непапраўную шкоду ўсяму грамадству і нашай дзяржаве. Хопіць нам рашучасці ў змаганні з гэтай з'явай.

Я таксама веру ў паведамленне генпракурора, што ў рамках кожнай акруговай пракуратуры будзе прызначана адна раённая пракуратура, якая будзе адказваць за правядзенне крымінальнага расследавання ў выпадках злачынстваў на глебе нянавісці. Калі будзе ў раёне значная колькасць такіх актаў, будуць вызначаны дзве раённыя пракуратуры. У той жа час у абраных раённых пракуратурах будуць прызначаны па два пракурораў для правядзення такіх крымінальных спраў.

Прыгадаю, што ў тэатр „Trzyrzecze” надалей можна паведамляць (анкета на сайце тэатра) пра месцы з намаляванай нацысцкай сімволікай або лозунгамі, якія заклікаюць да нянавісці па прыкметах расы і нацыянальнасці.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Бельскія «тройка» і белліцэй — гонар горада і павета

**Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Кастыцэвіча і Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім — прэстыжныя школы, у якія ахвотна паступаюць дзеткі і моладзь. Вучняў прыцягваюць добрая атмасфера, высокі ўзровень навучання, магчымасць вывучэння беларускай мовы, пазнання сваёй культуры і традыцыі. На добрае імя абедзвюх школ працуюць іх дырэктары, настаўнікі і вучні. Гэтыя астатнія часта перамагаюць на прадметных конкурсах і алімпіядах. Выпускнікі паспяхова спраўляюцца з усімі экзаменамі. Па гэтых паказчыках «тройка» і белліцэй лічацца самымі лепшымі школамі ў Бельску-Падляшскім.**

2 верасня адкрыццё школьнага года ў «тройцы» і белліцэі ўдастоілі пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктар Гайсёнак і дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Эдуард Швайко.

— У гэтым годзе вучобу ў нашай школе распачынае 671 вучань, з чаго ажно 97 асоб гэта вучні чатырох першых класаў падставовай школы. Цешыць нас, што ажно столькі дзетак запісалі бацькі ў нашую школу, бо ў тры іншыя падставовыя школы горада паступілі 144 першакласнікі, — заявіла дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы Яўгенія Васілюк і паінфармавала аб рамонтных працах. — У час канікулаў школьны будынак рамантавалі некалькі брыгад і працаўнікі нашай школы. Новай мэбляй, якую купілі мы за грошы Бацькоўскага камітэта, абсталявалі мы дзве адукацыйныя і чытальную залы. На рамонтныя працы сродкі перадалі бурмістр горада і спонсары. Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы падарыў нам мультымедыйны праектар разам з экранам і беларускія кніжкі для першакласнікаў.

Спачатку вучні і настаўнікі маліліся ў прышкольнай Мікалаеўскай часоўні. Пасля ў «тройцы» адбыліся дзве ўрачыстыя лінейкі: для вучняў падставовай школы, на якой прысутнічалі госці і спонсары, ды для белгімназістаў. Дырэктар Яўгенія Васілюк уручыла гравертоны са словамі падзякі спонсарам, у тым ліку паслу Віктару Гайсёнку і бурмістру Яўгену Беразаўцу. На тварах наймалодшых дзетак у час урачыстасці было відаць радасць, але адначасна і хваляванне перад невядомым, якое чакае іх у школе. Цешыліся яны, што нарэшце перастануць быць дашкольнікамі і стануць сапраўднымі вучнямі. Старэйшыя школьнікі наогул шкадавалі канікул, але хвалілі сваю школу і настаўнікаў.

— Вучоба ў нашай школе мне падабаецца. Настаўнікі тут мілыя і добра вучаць. Мне падабаюцца заняткі па беларускай мове, у час якіх многа чытаем. Цікава таксама і на іншых уроках, — сказала Аляксандра Жукоўская.

На школьную ўрачыстасць наймалодшых вучняў прывялі іх бацькі або бабулі ці дзядулі, якія хвалілі «тройку».

— Я прыйшоў сюды, бо мой унучак Лукаш Катэльчук тут вучыцца. Раней вучыліся тут мае сыны, знаёміліся з роднай мовай, культурай і традыцыяй. Я беларускай мове вучыўся ў Падставовай школе ў Локніцы і рады, што мае дзеці і ўнук вучацца па-беларуску, бо мы і дома гаворым пасвойму, і так сталі вучыць гаварыць унука, — заявіў Мікола Катэльчук.

— У гэтай школе добрая атмасфера, супрацоўніцтва настаўнікаў з бацькамі таксама добрае і я рада, што дзеткі тут вучацца сваёй мове. Тут вучылася мая найстарэйшая дачка і зараз двое маіх дзетак вучыцца, — сказала Эдыта Троц.

— Хаця я каталіцкага веравызнання, то выслала сваё дзіця ў гэтую школу, бо тут высокі ўзровень навучання і добрая атмасфера сярод вучняў. Добра, што вучыцца па-беларуску, бо будзе ведаць дадатковую мову, — гаварыла спадарыня Данута з Бельска.

Перад сабранымі з беларускімі песнямі выступілі школьныя беларускія калектывы «Жэўжыкі», якім апякуецца Анна Фіёнік, і «Капрыс», з якім займаецца Анна Вярцінская. Вучні выступаюць у «Капрысе» ўжо другі год, а раней займаліся ў «Вясёлцы».

— Мы з «Жэўжыкамі» нядаўна вярнуліся з турнэ па Беларусі, а канкрэтна, па Кобрыншчыне, дзе выступалі і знаёміліся з рэпертуарам тамашніх фальклорных калектываў, — сказала Анна Фіёнік. — Сёння апошні выступ старэйшай групы «Жэўжыкаў», з якіх большасць распачынае вучобу ў белгімназіі. Будуць яны выступаць у «Жэмэрве». Зараз малодшая група «Жэўжыкаў» стане старэйшай. Малодшую групу хочам стварыць з першакласнікаў.

У гэтым навучальным годзе, як і ў папярэдніх гадах, будзе ў «тройцы» многа



— У гэтым годзе вучобу ў нашай школе распачынае 671 вучань, з чаго ажно 97 асоб гэта вучні чатырох першых класаў падставовай школы. Цешыць нас, што ажно столькі дзетак запісалі бацькі ў нашую школу, бо ў тры іншыя падставовыя школы горада паступілі 144 першакласнікі, — заявіла дырэктар Яўгенія Васілюк (каля мікрафона)





Перад сабранымі выступілі школьныя калектывы «Жэўжыкі» і «Капрыс» (на другім плане)

пазаўрочных заняткаў адукацыйнага і спартыўнага характару.

— У нас працуе каля 70 настаўнікаў. Будзем арганізаваць каля 140 дадатковых гадзін працы са здольнымі вучнямі і з тымі, якія патрабуюць дапамогі ў вучобе. Настаўнікі беларускай мовы дапамагаюць падцягнуцца ў вучобе вучням, якія раней не вучыліся беларускай мове, — заявіла дырэктар Яўгенія Васілюк. — У мінулым школьным годзе 22 вучні нашай школы сталі лаўрэатамі прадметных конкурсаў, а 4 — фіналістамі, што дало нам 4 месца на агульны лік 427 падставовых школ у Падляшскім ваяводстве. 38 нашых белгімназістаў сталі лаўрэатамі прадметных конкурсаў, а 9 — фіналістамі, дзякуючы чаму мы занялі таксама 4 месца на агульны лік 232 гімназій у ваяводстве. Канешне, занялі мы першае месца ў ліку падставовых школ і гімназій у горадзе і Бельскім павеце.

Амаль усе вучні, за выключэннем 2 асоб з інтэграцыйных класаў, пачалі ў «тройцы» вучыцца беларускай мове. Спадзяемся, што так, як было і ў мінулых гадах, вучні гэтай школы будуць ахвотна і масава чытаць тыднёвік «Ніва», у якім могуць прачытаць многа цікавага.

— У нашай школе ёсць ужо «Лемантар» аўтарства Аліны Ваўранюк і я вельмі рада яму. Многа ў ім цікавых каляровых ілюстрацый Міраслава Здрайкоўскага, тэкстаў, вершыкаў і сімвалаў, якімі карыстаецца беларускае асяроддзе Беласточчыны, чаго няма ў падручніках выдадзеных у Беларусі, — сказала настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч. — Аднак мы хвалюемся, што будзе, калі ўступіць у сілу новы рэгламент прадметных конкурсаў, які можа мець адмоўнае ўздзеянне на арганізаванне такіх прадметных конкурсаў, як па беларускай мове. Да нашага конкурсу прыступае адносна невялікая колькасць вучняў у параўнанні з конкурсамі па іншых прадметах. Новая прапанова прадбачвае, што толькі 5% вучняў ад усіх дзетак і моладзі, што прыступілі да школьных элімінацый конкурсу, могуць стаць лаўрэатамі ваяводскіх элімінацый і гэта абмяжуе колькасць лаўрэатаў па беларускай мове.

Дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк паінфармаваў, што ў ліцэі распачалі вучобу 323 вучні, а ў чатыры першыя класы быў прыняты 91 вучань. Ужо раней школьны будынак белліцэя быў прыгожа адрамантаваны, а класы — абсталяваныя мультымедыйнай тэхнікай.

— Зараз дэмаграфія некарысная для нас, таму што з кожным годам штораз менш гімназістаў вучыцца ў Бельску і наваколлі. Нам трэба змагацца за кожнага выпускніка гімназіі, каб прыцягнуць яго ў нашую школу, найперш прапануючы высокі ўзровень навучання. Мы верым, што новы навучальны год будзе паспяховым. У мінулым годзе толькі адной асобе не хапіла аднаго бала, каб справіцца з матуральным экзаменам па матэматыцы. Усе іншыя асобы справіліся з усімі матуральнымі экзаменамі. Я сёння гаварыў вучням трэціх класаў, каб салідна вучыліся, а тады справяцца з матуральнымі экзаменамі, — сказаў дырэктар Андрэй Сцепанюк. — Больш за 50 вучняў з бельскай «тройкі», з гімназій у Орлі, Чыжах вучыліся раней беларускай мове і ў нас будуць працягваць адукацыю па-беларуску. Іншыя ліцэісты распачнуць вучобу беларускай мове ад асноў. Новае будзе сёлета ў другіх класах, дзе, напрыклад, у класе з матэматычным ухілам будзе 8 урокаў матэматыкі ў тыдзень. Друга- і першакласнікі пачнуць вучыцца па новай праграме.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Дапамажыце невідучым!

Па вуліцах у Беластока ездзіць многа пасажырскіх аўтобусаў гарадской камунікацыі. Ездзяць яны на шматлікіх лініях, з якіх кожная мае свой нумар. Нумары павінны быць відочныя здалёк. Не ў кожнага ж сакаліны зрок.

У многіх аўтобусах нумар высвятляецца правільна і гэта добра. Зараз увялі электроніку. Шкада толькі, што не ўсе аўтобусы маюць уключаную тую электроніку (ае, мабыць, не ўключаюць або яна сапсавалася і яе чамусьці адразу не рамантуюць) і тады цяжка ўбачыць нумар лініі. А гэта зрабіць трэба хутка. Яшчэ перад тым, пакуль не закрыюць дзвярэй. Яшчэ цяжэй разабрацца, калі на прыпынак прыедуць адразу тры аўтобусы. Так яно бывае і то часта. Не даюць сабе рады перш-наперш тыя асобы, якія дрэнна бачаць. Яны ў такіх выпадках перажываюць вялікі стрэс.

Адважнейшыя дык спытаюць, які зараз прыехаў аўтобус і... нярэдка пачуюць у адказ: „A co pan nie widzi?". Вось табе і маеш дапамогу. Калі б бачыў, не пытаў бы. Аказваецца, не вельмі разлічвай на дапамогу, бо хутка пералічышся. Ды як жа быць?

Вадзіцелі аўтобусаў Беластоцкай гарадской камунікацыі (БКМ) добра ведаюць і бачаць, што часта ездзяць пажылыя жыхары горада. Ведаюць і забываюць. Яны спяшаюцца. У іх жа расклад язды і яны маюць на ўвазе гадзіны ды мінуты, якіх ім трэба прытрымлівацца.

А тут яшчэ ім маршрут што і раз змяняюць, бо ўлетку ў многіх месцах Беластока рамантуюць маставыя і будуюць новыя адрэзкі вуліц. Мо таму шафёры і забываюць, што гэта неабходна, каб нумар лініі заўсёды высвятляўся.

Дзе тады людзям са слабым зрокам шукаць паратунку? Пэўна ў дырэктара БКМ. Так што да яго адрасую гэты допіс. Перадаю справу ў яго рукі і буду чакаць адказу. А так увогуле то ўсе мы павінны дапамагаць невідучым. Не забывайма пра гэта і на прыпынку гарадской камунікацыі. Калі нехта пытае пра нумар лініі, падкажыце. Яму гэта важна. Будзе вам удзячны.

## Дрэнная дарога

Калі ехаць ваяводскай дарогай № 687 з Беластока ў Гайнаўку цераз Жэдню, Міхалова, Юшкаў Груд і Бандары, аўтобус ПКС увесь час калоціцца, дрыжыць ды падскоквае, а шыбы ў вокнах лапацяць. Усё з-за няроўнага ўхабістага асфальтавага палатна ад Жэдні. На адрэзку гэтай дарогі ад Вілаў да Жэдні яе адрамантавалі ў 2011 годзе і тут яна роўная як верх стала. На гэта пайшлі грошы з ваяводскай касы ды бюджэту Міхалоўскай гміны. З ініцыятывай выступіў бурмістр Міхалова. Далей па шляху ў Міхалова і ў напрамку Юшкавага Груда маставой не рамантуюць шмат гадоў. Яна няроўная ды вузкая і таму небяспечная.

Шэсць гадоў радныя Нараўчанскай гміны дамагаюцца рамонту адрэзка дарогі з Бандароў у Нараўку і Навасады. Дык адрамантавалі яе каля Смольніцы — два кіламетры ды ад скрыжавання з гравейкай у Новіны да скрыжавання з гравейкай у Лешукі — будзе гэта 2-3 км. І як дагэтуль усё. Рамонт асабліва неабходны перад Новым Ляўковам ад гэтай вёскі ў напрамку Плянты. Ёсць абяцанні дырэктара Падляшскага праўлення ваяводскіх дарог (ППВД) у Беластоку, але няма ніякага зруху ў гэтай справе.

Ехаў я ваяводскімі дарогамі з Беластока ў заходнім напрамку ды там маставыя роўныя і шырокія. А вось ваяводская артэрыя з нумарам 687 ва ўсходнім напрамку — занядбаная. Тут ясна, што ППВД у Беластоку скупіцца аднавіць гэтую дарогу. У Плянце ППВД паставіла дарожны асцерагальны знак і ён стаіць тут нязменна восьмы год!

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Беларускае свята ў Орлі

Беларускі народны фэст «Арлянскія сустрэчы» стаў вядомым не толькі жыхарам Арлянскай гміны. У Орлю паглядзець выступы беларускіх калектываў і пачаставацца народным харчаваннем прыбылі людзі з іншых гмін Бельскага і Гайнаўскага паветаў. Наймалодшых гледачоў чакалі гульні ў адмысловым дзіцячым гарадку.



Калектыў «Радзімічы» з Мінска

Беларускае свята ў Орлі адбылося 1 верасня і было яно прымеркаванае да 90-годдзя мясцовай Добраахвотнай пажарнай каманды. У час мерапрыемства адбылося падвядзенне вынікаў дзейнасці каманды, заслужаныя пажарнікі атрымалі медалі і адзнакі, а людзі заангажаваныя ў дапамогу пажарнікам атрымалі статуэткі з падзячнымі граматамі. Войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк запрасіў на фэст шмат гасцей, сярод якіх былі дыпламаты, святары, людзі культуры і самаўрадаўцы. Арганізатары фэсту прапанавалі сабраным паглядзець фотавыстаўку «Падляшскія партрэты — Орля», на якой прэзентаваліся здымкі Мікалая Нестаровіча і вучняў Комплексу школ з датковым навучаннем беларускай мовы ў Орлі, пад наглядам Пятра Нестаровіча, сына пакойнага Мікалая.

— Сёння ў нас беларускае свята. У час фэсту хочам прамаваць нашую беларускую культуру і нашыя традыцыі. Беларускі народны фэст «Арлянскія сустрэчы» прыняўся сярод нашага насельніцтва і таму збіраецца многа людзей. Нашае грамадства станоўча паставілася да двухмоўных указальнікаў мясцовасцей і я лічу, што рашэнне аб іх усталяванні было правільным, — заявіў войт Пётр Сэльвесюк. — У час фэсту святкуем 90-годдзе пажарнай каманды ў Орлі і за ахвярную і адданую службу пажарнікі з нашай гміны атрымалі медалі і адзнакі. Я сабе нават не ўяўляю дзейнасці гміны без дапамамогі пажарнікаў, якія не толькі тушаць пажары, але дапамагаюць насельніцтву ў час стыхійных бедстваў. Прыязджаюць яны на месца дарожных аварый і памагаюць выцягваць людзей з аўтамабіляў, ліквідуюць паслядоўнасці дарожных аварый. Пажарнікі дапамагаюць таксама арганізаваць нашыя мерапрыемствы і сёння мы за ўсё гэта ім падзякавалі.

Залатыя медалі атрымалі Мікола Максімюк, Аляксандр Міхалевіч, Юры Хаманскі, Міхал Кубаеўскі, Пётр Мартыновіч і Мікола Федаровіч, а сярэбраныя — войт Пётр Сэльвесюк, Міраслаў Баршчэўскі і Пшэмыслаў Бала.

— Вельмі многа для пажарнікаў зрабіў войт Пётр Сэльвесюк і таму атрымаў сярэбраны медаль за заслугі для пажарнай аховы. За гмінныя сродкі адрамантаваны былі пажарныя дэпо ў Маліннікаў, Рудутах і Рыгораўцах. Усярэдзіне рамантаваўся будынак дэпо ў Орлі, які яшчэ чакае вонкавы рамонт. Я рады, што атрымаў Сярэбраны крыж заслугі. Для мяне гэта вялікае вылучэнне, — сказаў камендант Добраахвотнай пажарнай каманды ў Орлі Міраслаў Бала. — Мы пажарнікі, разам з войтам рашыліся падзякаваць асобам, якія нас успамагалі і сёння мы ўручылі ім статуэткі. Хачу яшчэ звярнуць увагу на Міколу Шкоду з Рыгораўцаў, які скончыў 70 гадоў і надалей ездзіць на пажарнай машыне, з'яўляецца актыўным пажарнікам, за што атрымаў залатую адзнаку.

Пасля першай часткі мерапрыемства, здамінаваней пажарнікамі, на сцэну выйшлі спевакі. Спачатку разам запрэзентаваліся калектывы, якія дзейнічаюць пры Гмінным асяродку культуры ў Орлі, а асобна выступілі «Арляне», «Вэрвачкі», дзеткі, якія займаюцца ў асяродку культуры і школьны калектыў «Без энду». Неспадзеўкай аказаўся калектыў «Тры пальцы».

— Члены калектыву «Тры пальцы» займаюцца ў нашым асяродку культуры. Сёння іх першы публічны выступ і думаю, што атрымаецца цікавым, — заявіла дырэктарка асяродка культуры Анна Несцярук.

Фальклорны рэпертуар запрэзентавалі «Малінкі» з Маліннік, якія дзейнічаюць ужо 15 гадоў. Частка жанчын з гэтага гурту спачатку працавала ў палатцы, у якой прапанавалася мясцовае харчаванне. Побач можна было з'есці вырабы з Чыжоўскай гміны. Прэзентаваліся таксама народныя карункавыя вырабы з Нараўчанскай гміны.

Многа мужчын сабралася побач аўтамабіля, прыстасаванага для дэманстравання ўмоў, у якіх апынуцца асобы ў час дарожнай аварыі. Некаторыя мужчыны, якія прынялі ўдзел у дэманстрацыі, выходзілі з аўтамабіля спалоханымі і ап'янелымі. Было гэта адукацыйнае перажыванне, якое павінна стаць перасцярогай перад неразважлівай і хуткай яздой.

Побач гуртоў з Арлянскай гміны цікава запрэзентаваліся таксама бельская «Маланка», «Астэрыя» з Праваслаўнага дома культуры ў Бельску, калектыў «Гай» з Беластока, Студыя эстраднай песні Гайнаўскага дома культуры, гурт «Нарва» з Нарвы і калектыў гуртка Саюза пенсіянераў і інвалідаў з Чыжоў. Аднак хіба наймацней захапіў публіку беларускі калектыў «Радзімічы» з Мінска.

У Арлянскай гміне рэалізуецца праект «Глядзі чалавек. У бок міжкультурнай адукацыі», які тычыцца неталерантнасці і дыскрымінавання асоб па прычыне іх нацыянальнасці, расы і веравызнання. Рэалізуецца ён у чатырох гмінах Падляшша з дапамогай Маршалкоўскай управы ў Беластоку і ў супрацоўніцтве з Міністэрствам замежных спраў.

— У нашай гміне маем дачыненне са шматнацыянальнасцю, шматрэлігійнасцю і шматкультурнасцю. У рамках праекта вучні нашай школы здымалі фільмы, якія будуць прэзентаваць у час адмысловых сустрэч, рабілі здымкі. Рэзультат іх работы можна ўбачыць на фотавыстаўцы, якая прэзентуецца ў час фэсту. Будзе таксама арганізавацца тэатральная дзейнасць, — заявіла дырэктар ГАК у Орлі Анна Несцярук.

На фотавыстаўцы «Падляшскія партрэты — Орля», што ладзілася ў рамках праекта «Глядзі чалавек», можна было пабачыць цікавыя здымкі, зробленыя Мікалаем Нестаровічам і вучнямі арлянскай школы. Людзі падыходзілі да вялікіх здымкаў і ўважліва ім прыглядаліся. Мікола Нестаровіч гэта асоба-сімвал у Орлі. Ягоны сын Пётр таксама добра вядомы арлянам.



Віцэ-старшыня Добраахвотнай пажарнай каманды ў Орлі Юры Шыманскі (справа), камендант Міраслаў Бала і пажарнік Мікола Шкода з Рыгораўцаў на фоне арлянскай палаткі з харчаваннем

У час фэсту былі таксама абвешчаны вынікі VII Конкурсу на найпрыгажэйы панадворак у Арлянскай гміне. Першае месца занялі Малгажата і Славамір Банькоўскія з Дыдулёў, на другім месцы апынуўся Андрэй Новак з Крывятыч, трэцяе месца камісія прызначыла Вользе Буйнюк з Орлі, а вылучэнне атрымала Тэрэса Лятэк са Шчытоў-Навадвораў.

— Я на панадворку насадзіла многа кветак, якія вельмі люблю, і многа дрэў. Частка дрэў мясцовых парод, дубы, бярозы. Расце таксама многа традыцыйных нашых кветак і гэта супадае з навакольнай прыродай. Але ёсць у нас аздобныя дрэвы і імпартныя кветкі. Я люблю падарожнічаць і таму перанесла да нас тое прыгожае, што ўбачыла ў час падарожжаў, — сказала Малгажата Банькоўская.

Беларускі фэст закончыўся выступам калектыву «Вясна» і пусканнем феерверкаў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Успамін лета

Вечарэе, сонейка нізенька спускаецца, толькі палавінка чырванее над гарызонтам. Над Нарваю пачынае клубіцца шэрая імгла, якая праз хвіліну пасцелецца па агародах, аж пад клуні. Незабыўная карціна, хацелася б перанесці яе на палатно, каб зімою ўглядацца на яе, седзячы ў гарадскіх сценах высачэзнага блока. Краса, любата!

— О, на вулічнай лаўцы сядзіць ужо жанчына, гэта мабыць Надзя, пажылая пенсіянерка, — кідаю я ўздагон да сястрой.

Далучаемся і мы абедзве. Увесь дзень не высунулі носа з хаты, такая спякота! А пабалакаць жа бабам хочацца, паслухаць чым жывуць вяскоўцы.

— Можна прылучыцца? — пытаюся ў суседкі.

— А як жа, нат' трэба, адной жа сумна сядзець пры пустой вуліцы.

— І дзяцей ганяючыхся на веласіпедах, што прыязджалі на канікулы да дзядоў, сёлета не відаць? — заўважаю я.

У той момант двух хлапчукоў-падросткаў пралятае перад намі на маторах, рыклівых больш чым статак кароў.

— Кароў цяперака ў нас няма, два сапраўдныя гаспадары ў вёсцы, а з пенсіянераў рэдка хто трымае кароўку. Хіба што гарадскія дзеці, якім бацька запісаў гаспадарку, як мой сусед Мікалай, прыязджаюць памагаць бацьку. Ну, то ён трымае і дзве кароўкі, садзіць трускалкі, агуркі, памідоры...

— Цяперака не ўсе дзеці маюць працу ў горадзе і бацькі, якім нават па восемдзесят гадоў, памагаюць ім як могуць, — уключаецца Надзя.

Да нашай тройкі далучаецца і Іван, які акурат выстраены ў чысценькую рубашку праехаў з Заблудава на сваёй „сузукі".

— О, прывёз я печаную куньпу і пахучую каўбаску, калі хочаш, суседачка, то падзялюся з табою, — заяўляе са шчырай усмешкай Іван.

— Вазьму, вазьму, а як жа ж, я ж сама ўжо не заеду ў горад за пакупкамі, харчы купляю толькі ў аб'язнога прадаўца, а ў яго не купіш таго на што маеш ахвоту.

— Ну, такой смачненькай куньпы не дастаць у вёсцы! — Іван адрэзвае вяндліну пасмакаваць. Мы каштуем — сапраўды смачная і пахкая.

— Ну, бабанькі, заказвайце, прывязу ўсім, я ж штодзень езджу ў горад або ў суседнія Паўлы ці Рыбалы... Не магу ўседзець на месцы, нудзіцца... Люблю дапамагаць іншым — раблю пакупку харчоў, купляю ў аптэцы лякарствы, усё што хто заказа... І людзі мне ўдзячны, і мне радасць у сэрцы... О, мо хто хоча купіць нагавіцы, навенькія, проста з магазіна, з біркай, за восем злотых, прадам... — весела рагоча Іван выцягваючы з багажніка тавар.

— А дзе вы такія танныя тавары бярэце? — цікаўлюся я.

— Я ведаю такія магазіны, і там купляю з думкай, а раптам што каму ў вёсцы спатрэбіцца. Не толькі аб сабе, трэба і аб іншых падумаць! У такіх нагавіцах файней і малако занесці ў малачарню, або і сесці на трактар; пахадзіў, пабрудзіцца — узяў і выкінуў, замест сціраць ізноў купіў за пару злоцікаў новыя, — звяртаецца да падышоўшых да нашай лаўкі мужчын.

Да нашай грамадкі прылучаюцца і Марыя, і Мікалай, і Маруся прысядае на момант — яна ж малодшая, работы ў яе па локці, з мужам дапамагаюць як могуць і дзецям, і ўнукам у горадзе.

На вуліцы паказваецца малады гаспадар на трактары. Нагрузіў саломы цэлы прычэп і вязе ў Надзіну клуню складваць на зіму, месца ў сваёй замала.

— А хляўчук напроцiў вуліцы стаіць і нішчэе? — заўважаю я.

— Яго трэба разабраць, ён ужо валіцца, ды няма каму, — кажа Надзя.

— Бачыце, калісьці, за камуны, утрыміга знайшліся б ахвотнікі і за некалькі злотых знеслі б з панадворка, а цяпер не знойдзеш ахвотных да работы, маладых няма, а тыя кавалеры, што засталіся ў вёсцы, толькі ходзяць па вуліцы з банкамі піва або з бутэлькамі „моцнай" у кішэнях...

У той момант хістаючыся сунецца двух кавалераў з банкамі піва ў руках, праходзяць міма нашай лаўкі. Адзін з іх спыняецца і злосна ўзіраецца на сядзеўшую на лаўцы жанчыну. Усе мы змаўкаем, толькі Іван з Толікам ласкава супакойваюць задзіру і частуюць яго папяросай. Аднак жанчына ўстае і без слова бяжыць у сваю хату.

— Не пажаніліся, ніхто іх не пільнуе, — заўважвае хтосьці з мужчын.

— Адкуль бяруць тое піва, у вас жа магазіна няма? — пытаюся.

— Прывозіць „Бядронка".

— Бядронка?

— Гэта жанчына, мае тут хату, і прывозіць...

— За такіх ніводная дзяўчына не пойдзе замуж, ды і адкуль іх узяць? — азываецца хтосьці.

— У вёсцы дзевак няма, а ў горадзе з працай цяжка, то і адукаваныя дзяўчаткі выходзяць замуж за гаспадароў, у вёску, як тая зубная доктарка, — працягвае далей сусед.

— З працавітым хлопцам можна цяперака і на вёсцы добра жыць, — падхоплівае тэму Іван.

— У вёсцы маладым сумна, мо ў святочныя дні, хоць бы і на Пакрову... напэўна людна бывае, як калісьці? — я краную ўспаміны.

— Куды там, як калісьці! Праўда, поўна машын і людзей пад царквою, ды пасля службы прыйдуць у хату гарадскія дзеці і ўнукі, пасядзяць за сталом, нават і кілішка не вып'юць, бо на машыне прыехалі, — уключаецца ў размову Марыя.

— На панадворку госця не ўбачыш, не то што калісьці, поўна сваякоў — дваюрадных, траюрадных, знаёмых... А калі б хтосьці зацягнуў песеньку, суседзі падумалі б, што з глузду з'ехаў... А калісьці на вазах на другі дзень па праздніках не адзін дзядзька вяртаючыся з гасціны дзёрся на ўсё горла „Выпрагайтэ хлопці коні..." — з сумам падводзіць Іван.

— Вёска пабагацела, ды мы пастарэлі, асталіся па-адзіночку амаль у кожнай хаце, маем і грошыкі, і лазенькі, толькі ніякай весялосці, ніякай радасці... — таксама з сумам у голасе падтрымлівае ўспаміны суседка.

Ужо цямнее, як паказваюцца мужчыны з банкамі малака прычэпленымі да веласіпедаў.

— І я панясу сваё малако ў малачарню, жонка ўжо падаіла кароўку, крыху грошыкаў у месяц атрымаю, на бензін хопіць, — як заўсёды з усмешкай кажа Іван і падымаецца з лаўкі.

Там у малачарні мужчыны пагамоняць аб чым-небудзь, запаляць цігарэтку, разыдуцца па хатах, да заўтра. І мы з сястрой падрываемся з лаўкі, камары куслівыя, а агароды пакрываюцца ўжо густой імглой.

На вуліцы ўноў настане цішыня, да заўтрашняга дня, да заўтрашняй сустрэчы...

**Ніна БРУЧКО**



Фота Міры ЛУКШЫ




## Якая праўда?..

З пачаткам навучальнага года, г.зн. ад 2 верасня, быў зменены чыгуначны расклад язды. Аднак на лініі Чаромха — Беласток нічога не памянялася. Надалей зранку курсіруе адзіны цягнік у сталіцу ваяводства а гадз. 5:35 і вяртаецца назад у 15:40.Так рашыла Прадпрыемства рэгіянальных пасажырскіх перавозаў у Беластоку на 2013/2014 гады, а „прыхлопнула" Маршалкоўская ўправа. Не памаглі пратэсты чыгуначнікаў і заклік мясцовых самаўрадаў, каб вярнуць „школьны" цягнік, які раней ад'язджаў з Чаромхі а 6:42. Віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства Валянцін Карыцкі ў адказ на службовае пісьмо чаромхаўскаму войту тлумачыў, што цягнік з Чаромхі ў Беласток не можа пазней прыязджаць у Беласток чым а 7:20, бо гэта адпаведны час для даезду вучням у школы і рабочым на працу ў Бельску і Беластоку. Колькі ў гэтым праўды няхай чытачы разбяруцца самі.

Падарожнічаў я цягнікам з Чаромхі ў Беласток у пятніцу 6 верасня. Калі зайшоў у поезд на пяць мінут да ад'езду, дык рэйкавы аўтобус з 44 месцамі для сядзення быў ужо амаль запоўнены. Ніводнага школьніка, адно дарослыя. Некалькі працаўнікоў чыгуначных фірм „Карго" і ПЛК, затым пенсіянеры, якія падаваліся да лекараў-спецыялістаў і астатнія — за дамашнімі справункамі. Ад Бельска поезд быў загружаны поўнасцю. Ды не ўсе знайшлі месца для сядзення. Хто заходзіў на прыпынках ад Райска да Лявіцкіх вымушаны быў стаяць. Збоку чуваць было няёмкія эпітэты ў адрас чыгуначных начальнікаў. Галасней загаварылі аб тым у Страблі, калі зайшло больш дзесяці чалавек. Па маёй ацэнцы гэтым цягнікам падарожнічала каля сямідзесяці пасажыраў, значыцца рэйкавы аўтобус быў перапоўнены на звыш дваццаць чалавек. Для чыгуначных начальнікаў не важна, што чалавек заплаціў грошы і паводле закону належыцца яму сядзячае месца. Аднак пра гэта ніхто не дбае. І асноўная справа. Не магу ўцяміць, якіх школьнікаў меў на ўвазе віцэ-маршалак Карыцкі? У бельскія школы чаромхаўская моладзь вымушана дабірацца аўтобусным транспартам. Патэнцыяльных кліентаў у колькасці некалькіх дзесяткаў чалавек Рэгіянальныя пасажырскія перавозы адпіхнулі. Праўда ёсць такая, што а 5:35 не падаюцца на заняткі школьнікі, толькі некалькіх чыгуначнікаў з Чаромхі і Бельска-Падляшскага на працу. Ці дзеля гэтага варта было адмяняць курсіраванне цягніка у 6:42? Якая тут эканоміка? Поезд у 6:42 быў адным з найбольш рэнтабельных і час ад'езду адпавядаў як школьнікам, так і дарослым. Хапіла б адно вярнуць курсіраванне цягніка для рабочых а 5:09. Два поезды ў Чаромху не пашкодзілі б, пры тым і чыгунцы прыбыткаў было б больш. Гавару пра тое з поўнай адказнасцю.

8 жніўня на адкрыццё філатэлістычнай выставы „140-годдзе чыгункі Адэса — Крулевец" прыехала шматлікае кола гасцей, у гэтым ліку дырэктар Рэгіянальных пасажырскіх перавозаў у Беластоку Альжбета Залуска ды прадстаўнікі ПЛК і суседняй Мазавецкай чыгункі. Прысутныя Чаромху і мясцовых дзеячаў расхвальвалі тады ўзахлёб. Чаму ніхто не напомніў аб праблемах мясцовай грамадскасці і не выявіў праўды чыгуначным кіраўнікам і прадстаўнікам ваяводскіх улад? Па-мойму, была для гэтага зручная нагода.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# З о р к а

для дзяцей і моладзі

# Медаль крышку залатры і крышку бронзавы!

Мая сястра Зузя Кардзюкевіч атрымала медаль. Яна была наймалодшай лаўрэаткай прадметнага конкурсу ў ваяводстве. Зузя пайшла ў школу ў шэсць гадоў. У чацвёртым класе, разам з сяброўкай Клаўдзіяй Галінскай, прыняла ўдзел у прадметным конкурсе па беларускай мове. Яны сталі лаўрэаткамі! Медаль Зузі — залатры, у цудоўнай упакоўцы. Медаль майстра-настаўніка атрымала наша настаўніца Яна Марко. Пані Яна, як ніхто, заслужыла на гэтую ўзнагароду. У яе было шэсць лаўрэатаў прадметнага конкурсу. Медаль настаўніцы крышку залатры і крышку бронзавы...

Сардэчныя ім віншаванні!

**Вераніка Кардзюкевіч,**
пяты клас НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.



**Іаанна Марко другая справа, ззаду Зузя Кардзюкевіч. У цэнтры прэзідэнт Беластока Тадэвуш Трускаляскі**



**Зузя Кардзюкевіч (справа) і Дамініка Благушэўская**

## Верасень, верасень

Ёсць такая расліна — верас. Верасы цвітуць у верасні. Адсюль і назва месяца. У верасні дрэвы апранаюцца ў прыгожы стракаты ўбор. У верасні спеюць журавіны. Адлятаюць у вырай птушкі, а пушныя звяры мяняюць сваю футру на больш цёплую.

У канцы верасня бывае некалькі дзён цёплага надвор'я. Гэтую пару называюць у нас бабіным летам, а ў Амерыцы — індзейскім летам.

# Сямейныя гульні!



Як перадаць інфармацыю дзеткам пра гістарычнае свята? Вось, бацькі Юля і Зміцер Косціны, прыдумалі гульню на тэму Аршанскай бітвы, якая адбылася 8 верасня 1514 года. Бой быў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Княствам Маскоўскім. Героем вайны стаў князь Астрожскі, які кіраваў беларускімі палкамі. Пра гэтую падзею ёсць цудоўная песня Андрэя Мельнікава.

Героі гульні — гэта Міхаліна і Кандрат, сястрычка і брат.

Іх гульню бацька назваў „калягістарычнай рэканструкцыяй” з нагоды Аршанскай бітвы. Слаўны рыцар Кандрат меў за задачу вызваліць князёўну Міхаліну з рук маскоўцаў. Яго чын закончыўся перамогай. Пра гэта сведчыў апошні вокліч *Слава Воршы ўжо не горша!* Інфармацыя разам са здымкам трапіла ў фейсбук. А ўсё гэта адбывалася ў нашым Беластоку.

**Зорка**
**Фота Зміцера Косціна**

## Вершы Віктара Шведа

### Блізняты

Паспачуваць бацькам
Прыйшла суседка ў хату.
— Так вельмі цяжка вам
Выхоўваць блізняты.

— Не так і цяжка жыць,
Хоць працы многа.
Адно з іх так крычыць,
Што не чуваць другога.

### Дрэнна ў школе

— Дрэнна адчуваю
Сябе сёння, маці.
Дазволь, дарагая,
Мне астацца ў хаце.

— А дзе адчуваеш
Сябе дрэнна, Коля?
Адказ Мікалая:
— Вядома, што ў школе.

# Тры бярозы

*(пачатак у № 34)*

— Дарагая чараўніца, — пачала Купалінка, — мы чулі пра вас шмат добрага. Вы дапамагаеце ўсім у бядзе. Вось і мы прыйшлі прасіць вас пра такое...

— Гаварыце, гаварыце!

— Мы хочам стаць дзяўчынкамі, — сказала Беларусачка, — хочам жыць як сапраўдныя людзі.

Чараўніца памаўчала, пасля вырашыла:

— Вашая просьба споўніцца.

Яна прашаптала магічныя заклікі і лялькі змяніліся ў прыгожых дзяўчат.

Ночка, Купалінка і Беларусачка вельмі былі рады новаму жыццю. Дзяўчаты адразу пайшлі пагуляць у вёску. І вось з першага погляду яны раскахалі ў сабе ўсіх хлапцоў. Сёстры выбралі сабе па адным хлопцу і пажаніліся. Яны заснавалі сем'і і асталіся жыць у вёсцы. Іх жыццё было цудоўнае, як у казцы. Але вядома — шчасце таксама можа калісьці пераесціся. Аднаго разу Ночка прызналася сёстрам:

— Дарагія, я вельмі сумная. Я ўсё думаю пра лес і раку!

— І я хачу ў лес, — прызналася Купалінка.

— Мне таксама сніцца па начах лес, — дабавіла Беларусачка.

Яны ўзяліся за рукі, і, не аглядаючыся, пабеглі ў свой лес. Беглі доўга ці коратка, аж патрапілі ў месца, дзе раней раслі, прыселі на ссечаных пяньках і пачалі галасіць:

— Дзякуем табе, Маці-прырода, за нашае жыццё! Апякуйся нашымі мужамі, сем'ямі і звярамі. Мы, аднак, хочам быць як раней бярозамі. Абвярні нас у дрэвы — просім цябе ад усяго сэрца!

— Добра, я вас памяняю ў дрэвы, — адказала ціха Маці-прырода, — толькі памятайце — ад гэтага ўжо не будзе адвароту.

— Калі ласка! Памяняй нас у дрэвы! Мы вельмі хочам стаць бярозкамі, — папрасілі са слязамі дзяўчаты.

Маці-прырода, згодна жаданню, памяняла сястрыц у бярозкі.

На іх кронах зноў з'явіліся залатыя валасы-лісце...

*(праця г будзе)*

**Вераніка Кардзюкевіч** і **Габрыеля Торка** — вучаніцы Непублічнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.



# Адгаданка

**Зузя хацела сустрэцца з Янай. Дапамажы Зузі даехаць да Яны.**

***Вераніка Кардзюкевіч***



# Аліцыя Петручук у Ляўкове

На Сустрэчы „Зоркі" прыехала Аліцыя Петручук, журналістка Радыё Беласток. Яна расказала нам пра тое як рыхтуе перадачы і хто яе супрацоўнікі. Самы вялікі выклік для яе сярод жанраў — радыёрэпартаж. Гэта жывы працэс, у якім аўтар хоча як найбольш прыцягальна паказаць сваіх герояў. Журналістка прызналася, што нягледзячы на гады практыкі, пры кожнай новай тэме яна перажывае стрэс. На канец яна распавяла пра сваіх брытанскіх катоў.

*„Людзі Тамары Саланевіч"*

*Аляксандра ЯРОЦКАЯ*

## Закаханы казёл

*Прыйшоў казёл да казы*
*і кажа:*
*— Ты любіш мяне?*
*— Можа, люблю,*
*а можа не!*

# Польска-беларуская крыжаванка № 37

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 33:

**Дух, думка, мара, літарка, пераклад, яр, ты, крапіва. Дар, лекар, мір, дата, марак, мерля, карта, парад. Узнагароды, майкі з лагатыпам Радыё Рацыя, выйгралі Магда Хвашчэўская і Анджэліка Сцепанюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



У рамках першага міждысцыплінарнага фатаграфічнага фестывалю «Беласток-Інтэрфота», які працягваецца ў сталіцы Падляшша амаль да канца гэтага месяца, у Архібіскупскім музеі прадстаўляецца выстава «За Беларусь» / «Stand By» калектыву «Спутнік», то-бок, сямі фатографаў розных нацыянальнасцей. Пабывалі яны ў Беларусі, каб убачыць, што хаваецца за пацёртым тэрмінам «апошняя дыктатура Еўропы». Таксама ў Беластоку ў Лялечным тэатры адбыўся вернісаж выставы народжанага ў Мінску ў 1962 годзе Ігара Саўчанкі: «To Step over the Threshold» («Каб пераступіць парог»).



Андрэй Лянкевіч

# За Беларусь / Stand By

Як мы ўжо згадвалі, асноўнай часткай фестывалю з'яўляецца прадстаўленне работ фатографаў, кранаючых важныя пытанні — грамадскія і датычныя ідэнтычнасці. Тэмай першага выпуску «Беласток-Інтэрфота» з'яўляецца памежжа, якое разумеецца як геаграфічнае становішча ваяводства, спосабы мыслення і жыцця ды адчуванне рэальнасці, а таксама як памежжа мастацтваў. Да канца верасня адбываецца 50 розных фатаграфічных дзеянняў, у тым ліку 24 выставы мастакоў з Польшчы, Чэхіі, Літвы, Беларусі і Нямеччыны.

Калектыў «Спутнік» ад пачатку сваёй дзейнасці (2006) ажыццяўляе праекты апісання Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Аб'яднаныя ў ім фатографы асабліва любяць тэму трансфармацыі, міфа і сувязей культуры з сацыяльнай рэальнасцю. Яго сябры родам са Славакіі, Польшчы, Грузіі і Чэхіі. Беларусь прадстаўляе Андрэй Лянкевіч. На выставе сямёра фатографаў расказвалі аб вайне, эканамічнай эміграцыі беларусаў у ЗША, шлюбным офісе ці жыцці ў Белавежскай пушчы. Аўтары сканцэнтраваліся на розных тэмах, даследуючы іх у час некалькіх візітаў у Беларусь. З многіх фотаздымкаў, якія складаюць выставу, спаглядаюць твары. Удзельніцы вайны пазіруюць з медалямі, а мужчыны — героі вайны, стаяўшыя на вуліцах іх імя. Жыхарам гэтых вуліц у большасці выпадкаў прозвішчы нічога не кажуць, не памятаюць яны дасягненняў увекавечаных людзей. Кожны з фатографаў шукаў іншую частку рэальнасці і даў ёй тлумачэнне. Унікальнасць выставы, якая гастралявала па амаль усёй Польшчы — як кажуць крытыкі — гэта разнастайнасць пунктаў гледжання; кожны фрагмент экспазіцыі гэта іншыя людзі, розныя погляды, розныя тэмы, іншыя эмоцыі. Здымкі з'яўляюцца спробай зразумець гісторыю, палітычную сістэму, фрагмент жыцця людзей, якія змагаюцца са звычайным днём пад «апошняй дыктатурай Еўропы». Англійскае «Stand By» з'яўляецца адначасова тармажэннем актыўнасці і заклікам да дзеяння (By — міжнародная абрэвіятура Беларусі). Беларускі загаловак з'яўляецца цытатай дубляванай на прапагандысцкіх рэкламных шчытах.

Незадоўга да адкрыцця выставы калектыву «Спутнік» вядомы фатограф, мастацкі кіраўнік фестывалю, ураджэнец Сувалкаў Гжэгаж Ярмацэвіч распавядаў «Ніве»:

— «Спутнік» у першую чаргу гэта група маладых мастакоў, якая пачала сваю дзейнасць у галіне сучаснай фатаграфіі, выкарыстоўваючы сучасныя метады. Яны пранікаюць у розныя гісторыі нашай краіны, а таксама далей, напрыклад, Ісландыі. У месцах, у якіх яны знаходзяцца, даследуюць, фатаграфуючы нейкія тамашнія сацыялагічныя мадэлі. Для кожнага дзеяння выпускаюцца прыгожа аформленыя мастацкія кнігі і часта выставы спалучаюцца яшчэ з арт-інсталяцыямі. Займаюцца ўсімі сферамі жыцця грамадства ў месцах, дзе знаходзяцца. На гэтай выставе яны дабраліся да такіх месц у Беларусі, не звязаных з нейкімі «дзяржаўнымі» дзеяннямі, з тым, што адбываецца вакол Лукашэнкі, але да сапраўднай праўды людзей, якія жывуць там, але ў кантэксце гісторыі і перамен. Дайшлі яны да простых людзей і іх бліжэйшага акружэння. Ініцыятарам праекта, які ажыццяўляецца «Спутнікам» у Беларусі, быў мінчанін Андрэй Лянкевіч, прысутны на адкрыцці выставы ў рамках беластоцкага фестывалю (раней займаўся прэсавай фатаграфіяй). У размове з «Нівай» сказаў: — «За Беларусь» гэта першы праект калектыву «Спутнік», у якім мы заняліся рэальнай сацыялогіяй. Не хацелі мы проста прыехаць, сфатаграфаваць і з'ехаць. Мы дамовіліся, што не робім палітычных фотаздымкаў, палітыкаў, то-бок такіх, якія звычайна робяць прыехаўшы ў Беларусь. Мы ўсе жылі ў той час на маёй кватэры ў Мінску. Кожны па некалькі разоў ездзіў у месцы і да людзей, якія яго цікавілі. Некаторыя толькі за трэцім заездам пачыналі фатаграфаваць, раней толькі назіралі. Мы хацелі паказаць звычайных людзей і звычайныя праблемы. Прынялі мы розныя тэмы, пачынаючы ад вайны, якая прысутная у двух аўтараў, заканчваючы фотаздымкамі маладых жанчын, што шукаюць мужчын за межамі Рэспублікі Беларусь і хочуць такім чынам з яе з'ехаць, як зрабіла гэта Юстына Мельнікевіч аб жанчыне з Гродна. За такія тэмы, якімі мы ўжо заняліся, у Беларусі, як правіла, ніхто ў фатаграфіі не бярэцца. Папулярныя матывы ў фатографаў-мастакоў гэта дрэвы, зубры і г.д.



У рамках праекта Андрэй Лянкевіч паказаў здымкі на матывах ягонага ўспрымання апошняй сусветнай вайны, азагалоўленых «Бывай, радзіма»:

— У маёй бліжэйшай сям'і ніхто не ваяваў. Ніхто не быў забіты ў час вайны. Гэтая тэма мне чужая. Больш разумею дэпартацыю ў Сібір, ці як некаму ў ваенных дзеяннях забралі карову. Мой бацька нарадзіўся ў 1943 годзе. Расказваў, што немцы давалі яму шакаладкі ў час вайны. Вайна ніколі не была чымсьці блізкім для мяне, блізкім эмацыйна. Гэта была казка аб тым, што «кожны чацвёрты быў забіты ў Беларусі». Але я ніколі не адчуваў гэтага асабіста, не было ў мяне жалю, болю.

Памерлы ўжо бацька Андрэя — Леапольд быў палякам, а маці (прысутная на адкрыцці) — Ларыса — беларуска:

— Я заўсёды пытаюся ў сябе: «Чаму аб вайне так шмат гавораць?». Адказ на гэтае пытанне аказаўся настолькі суб'ектыўным як вопыт кожнага. Для мяне гэта адказ на пытанне «Хто я?». Па крыві. У сэрцы. Кім я ёсць?

Праекту «За Беларусь» спадарожнічае кніга, мастацка выдадзеная, складзеная з беларускіх здымкаў фатографаў «Спутніка» з іх кароткімі літаратурнымі справаздачамі. Андрэй Лянкевіч:

— Гэтая кніга ўяўляе сабой праект сама па сабе .

У той час калі выстава «За Беларусь» не была прадстаўлена ў Беларусі, была яна там прэзентаваная ў адной з фотастудый:

— Большасць з тых, хто прыйшоў на яе прэзэнтацыю, была настроена скептычна. Пыталіся, чаму так песімістычна прадстаўляем Беларусь.

Сярод натоўпу ўдзельнікаў адкрыцця выставы быў захавальнік Архібіскупскага музея, а. Збігнеў Гвяздоўскі:

— Тое, што я заўважыў у гэтых фотаздымках, параўноўваю са сваімі адчуваннямі, звязанымі з паездкамі ў Беларусь. Гэтая краіна зачароўвае мяне. Гэта наш бліжэйшы сусед, але адразу пасля таго, як перасякаем мяжу, аказваецца іншай рэальнасцю. Але людзі вельмі падобныя, такія самыя, маюць тую самую гісторыю, многа падобных звычаяў, такі ж спосаб бачання свету. Калі б не гэтая мяжа! Я ўжо не кажу пра эканоміку, але і звычайныя чалавечыя адносіны, калі б не гэтая мяжа, як гэта ўсё магло б развівацца! Для мяне Беларусь ёсць такім светам, у які з радасцю вяртаюся, і светам, у якім я адкідаю ўсе польскія стэрэатыпы. Беларусь з'яўляецца для мяне перш за ўсё скарбніцай вялікай прыгожай культуры і зямлёй прасякнутай гісторыяй, важнай таксама для палякаў.

Як піша Віктар Мартыновіч ў эсэ ў кнізе, прымеркаванай да праекта, «у Беларусі на кожным кроку сутыкаешся з прыкладам двайной сістэмы, ёсць два прафсаюзы пісьменнікаў, у перыяд паміж 1996 і 1999 гадах былі нават два парламенты, жыццё цяжкае, але ў той жа час калі прыязджаеш у Мінск, усё чыстае і акуратнае». Такую дваістасць Беларусі можна ўбачыць на выставе «Спутніка».

У рамках фестывалю «Беласток-Інтэрфота» адрэкамендаваўся беластачанам таксама Ігар Саўчанка з фотавыставай «To Step over the Threshold». Аўтар вывучаў кібернетыку і сістэмы для аўтаматычнага кіравання на Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі. Мультымедыйны мастак, празаік і паэт. З фатаграфіяй працуе з 1989 года. Першую персанальную выставу адкрыў у Галерэі «Індэкс» у Стакгольме ў 1991 годзе. Паміж 1998 і 2005 гадамі ствараў мультымедыйныя праекты, заснаваныя на тэкстах і новых распрацоўках кібернетычнага мастацтва. Важным элементам спазнання свету, які таксама з'яўляецца ў некаторай ступені перакладзеным на мастацтва, з'яўляецца вопыт, які мастак атрымлівае ў час падводнага плавання ў глыбокай вадзе ў акваланґу (спускаўся да гранічнай глыбіні 192 м). Падчас фестывалю паказаны былі (6 верасня) яго навейшыя мультымедыйныя работы.

Наступны выпуск фестывалю — праз два гады.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# У Тамары ў Нараю

*Месяц над Свіслачанамі*

*Месяц над Свіслачанамі*
*Складваецца з двух яблыкаў*
*Потым адзін з'ядае*
*І выцалоўвае месца па ім*
*Потым зноў складваецца з двух яблыкаў*
*А калі б я праверыла гэта на сабе*
*— выцалавала б маю беларускасць*

*Тамара БОЛДАК-ЯНОЎСКАЯ*



**У Нарэйках, што ў Гарадоцкай гміне, 31 жніўня пачалася штогадовая літаратурна-сваяцкая сустрэча людзей, якія захапляюцца польска-беларускім памежжам і спадчынай Вялікага Княства Літоўскага — VII Заезд у Нарай. Сустрэчу арганізуе незалежная пісьменніца родам з гэтай ваколіцы, жыхарка Ольштына,Тамара Болдак-Яноўская, якой кніга ў 2010 годзе намінавана была на польскую літаратурную прэмію „Ніке". Разам з Тамарай Болдак-Яноўскай сустрэчу арганізуе Гмінны цэнтр культуры ў Гарадку. Заезд быў раней сямейным з'ездам. Ад некалькіх гадоў пісьменніца пашырыла форум. У сустрэчы таксама ўдзельнічаюць сваякі (у гэты раз прыбыў толькі адзін з тамашніх сваякоў) і сябры аўтаркі. Месцам правядзення штогадовага мерапрыемства застаюцца Нарэйкі, падворак і хата дачкі пісьменніцы.**

— Нарэйкі гэта вёска, якая мае сваю асаблівую атмасферу, — кажа спадарыня Тамара. — Я рада бачыць усіх, хто захапляецца беларушчынай і Вялікім Княствам Літоўскім. Людзі, якія былі ў мяне ў гасцях, палюбілі нашу зямлю.

У сустрэчы прынялі ўдзел літаратары з Гарадоччыны, сябры літаратурнай групы „Каласы" і літаратары-настаўнікі з Беластока. Падчас спаткання ўдзельнікам сустрэчы падспеўвала гарадоцкая капэла „Хутар".

Тамара Болдак-Яноўская (псеўданім „Тамара Бэ Ёт") нарадзілася 10 верасня 1946 г. у Зубках, у адзінокай хатцы ля чыгункі, сярод лугоў, над рэчкай Свіслаччу. Пачатковую школу кончыла ў Вераб'ях, над рэчкай Калодзенкай. З 1976 года жыве ў Ольштыне, дзе пазнаёмілася з настаўнікам Антоні Яноўскім, а вянчаў іх святар Аляксандр Шаломаў з праваслаўнага прыхода ў Ольштыне. Скончыла Варшаўскі ўніверсітэт (Інстытут польскай і славянскай філалогіі). Піша прозу, паэзію і эсэ, займаецца таксама перакладам (з рускай, беларускай і нямецкай моў) і малюнкам (у тым ліку ілюстравала зборнікі вершаў у нямецкім выдавецтве Пятра Зэглера) ды іканапісам. Пачала публікаваць пасля падзення ПНР. Сяброўка варшаўскага аддзялення Саюза польскіх пісьменнікаў, Асацыяцыі „Віла Сакрата", ВК Барусія. Перакладвалася на англійскую, нямецкую, рускую, беларускую, венгерскую і літоўскую мовы. За творчасць узнагароджана маршалкам Вармінска-Мазурскага ваяводства ў 2007 годзе. За томік вершаў „Rozdziały" намінавана да ўзнагароды публічных СМІ „Cogito" ў 2008 годзе. За ўтапічны раман п.з. „Rzeczy uprzyjemniające. Utopia" намінавана на літаратурную прэмію „Ніке" ў 2010 годзе. Паэтычны яе зборнік „Ceremonia węglowa" апынуўся ў фінале ўзнагароды „Wawrzyn" у Ольштыне ў 2010 годзе. У „пяцёрцы вялікіх" у 2011 годзе атрымала прэмію прэзідэнта Ольштына за творчасць. Выдала „Szmatki-Notatki" (Ольштын,1994, паэзія); „Opowiadania naiwne" (Ольштын, 1994, проза); „Rytmy polskie i niepolskie (Ольштын,1998, проза); „Jeśli poezja jest bezsilna" (Ольштын, 1998, паэзія); „Niewidomy pies rymów" (1999, Ольштын, паэзія); „Ach, moje drogie życie"(Ольштын, 1998, проза); „Ta opowieść jest po prostu za szybka, ktoż ją wytrzyma" („Рута", Вальбжых, 2002, проза); „Szkice dla zielonego wróbla. Portret" (Ольштын, 2004, проза); „Kto to jest ten Jan Olik? Humoreska naukowa" (Варшава , 2005, проза); „Rozdziały" (Ольштын, 2005, паэзія); „Tfu! Z ludźmi! Szkice małe i miniaturowe" (Ольштын, 2008 г., проза); „Co dobrego było w peerelu" (2009, Ольштын, проза і паэзія), „Rzeczy uprzyjemniające. Utopia" (Ольштын, 2010, утапічны раман) ; „Ceremonia węglowa" (Ольштын, 2010, паэзія), „Restauracja strasznych potraw. Rozprawa gardłowa" (Ольштын, 2011, эсэ)

Караль Малішэўскі („Odra") пісаў пра Тамару Болдак-Яноўскую: „Я пацягнуўся да ранніх твораў Тамары Болдак-Яноўскай — *Гісторый наіўных, Рытмаў польскіх і няпольскіх, Эскізаў для зялёнага вераб'я*. Першае ўражанне? Карацей кажучы: эмацыйнае напружанне, як у Эдварда Стахуры, мова быццам бы ў Вітольда Гамбровіча, плебейская, як містыка Тадэвуша Новака. І як гэта відаць з раўнання? Нічога не ясна. Быццам бы бачым некаторае падабенства, але ўсё ў яшчэ фрагментарным вызначэнні, не адлюстраванае ў цэлым. Цэласць няўлоўная. Так ёсць з кожнай новай якасцю. Рызыкоўнасць, балансаванне на мяжы, пякучая эмацыйнасць. Для мяне гэта з'яўляецца асаблівасцю кароны працы аўтара. За кожным фрагментам цікуе эмацыйнасць. Складваецца ўражанне, што яна проста выбухае прама праз белы ліст. Такім чынам, гісторыя ствараецца прымусам, з неабходнасці, ад запалу. Гнеў, лютасць, адчай, спачуванне, пагарда, пяшчота, захапленне, эйфарыя, гнеў, расчараванне — хто ведае, ці не можна было б так раскласці па шуфлядах гісторыі Болдак-Яноўскай, паводле загалоўкаў або пароляў. З гэтым вяжацца ангажаванне сябе. Пакуль маладыя празаікі ў іх сацыяльна-арыентаванай прозе стварылі плынь удзелу, аўтарка кніг з Ольштына гэтае ўключэнне даўно прайшла. Ангажаванасць чалавека пераломy, выхаванага ў „камуне", які прабуе жыць пры капіталізме. Аўтарка вельмі рэдка перажывае з-за асабістай траўмы ці знявагі, у асноўным грунтуецца на эмпатыі на іншых людзей, чалавечых груп, супольнасці, ці нават чалавецтва. Менавіта ў іх імя злуецца і кусаецца, раздзіраючы вопратку і плача ў спагадзе, ад іх імя аддаецца запалу прыхільнасці і чалавечага братэрства. Камусьці гэта можа здацца наіўным, але ўва мне выклікае ўражанне і з'яўляецца сімвалам веры ў літаратуру. У літаратуру, якая сур'ёзна заяўляе, што яна зацікаўленая ў свеце і чалавеку, што робіць усё з усяе моцы. Тамара Болдак-Яноўская робіць усё з усяе свае моцы. З усіх сіл, і з вялікім запалам. Але якімі сродкамі гэта робіць? Вельмі часта сягае па іронію, жарт, насмешку, да намёкаў і адступленняў фарміраваных доўгімі ланцугамі дынамічных сцвярджэнняў і адмоваў. Нейкім феноменам яе творчасці ёсць ладжанне гэтай стылістычнай лютасці і вострасці з чулымі, мяккімі адступленнямі, якія маюць лірычную, паэтычную адгалоску. Гэта як быццам бы штосьці публіцыстычнае пастаянна сціралася з чымсьці лірычным, а філасофія думкі дасягала сутнасці пытання, не карыстаючыся арсеналам ідэй, але сродкамі тыпова паэтычнымі: параўнаннямі, эпітэтамі і ўсімі разнавіднасцямі метафары". Тамара Болдак-Яноўская, як і піша, выклікае ў чытачах і людзях самыя розныя эмоцыі. Ніхто не ў змозе адносіцца да яе памяркоўна, „летня". „Тамара Болдак-Яноўская захоўвае гонар польскай літаратуры" — напісаў Сакрат Яновіч („Барусія" 35/05 ): „Трох — трох ёсць вялікіх польскіх пісьменнікаў: Гамбровіч, Мілаш і Тамара Болдак-Яноўская". А Іаланта Брах-Чаіна: „Віншуем! Такім чынам паказала Пані, што магчымы дзікі жаночы інтэлектуалізм" (словы на вокладцы кнігі п.з. „Tfu! Z ludźmi. Szkice małe i miniaturowe").

— Я думаю, што напісала „Rzeczy uprzyjemniające. Utopię" для людзей, якія ўсё яшчэ думаюць і ў іх ёсць пачуццё гумару, і не належаць яны да большасці. Для тых, хто не чакаюць поп-культурнага зместу. Для тых, хто яшчэ не збаранелі. Для маіх каханых беларусаў і палякаў з Вялікага Княства Літоўскага. Для тых, хто ўсё яшчэ бачыць розніцу паміж літаратурай і рынкавым „прадукцыйнякам". Для тых, хто яшчэ ўражлівы.

Ды будзе гэта ці не апошні „Нарай"...

— Рай ніколі не канчаецца, — заўважыў Тамаш Суліма.

— Не павінен. Пастараюся перацягнуць наш рай у іншае месца, каб жыў.

Тамара піша іконы — „паэсункі" — рысункі да паэзіі. На вернісажах дэкламуе свае вершы, спалучае слова з вобразам, маўчанне намаляванае з маўчаннем сказаным. Муж Антоні Яноўскі — празаік і разьбяр.

Міра Лукша ў сваёй замове напісала Тамары Болдак: Чалавеку ... „які на тутэйшых неўрадлівых палетках трымаецца свайго кораня, што не адарваць яго, хаця паляціць нават у далёкі край, птушкай-каршуном ці хутчэй паставачкай. І вернецца сюды і затрапечацца на мяжы як васілёк галубовы сярод палыноў і крапіў і чартапалоху. І пашукае зрокам такіх самых, і пагушкае свае думкі на вечным дыме камінoў, якіх штораз менш запальваецца ў нашым старонні. І запляце тыя думкі запляценнем адмысловым, каб спляліся з іншымі, што снуюцца сярод пакінутых палосак, зарастаючых маладняком, і не дасць, каб іх развеяў вецер чужынскі, хоць ён заўжды нянаскі, бо межаў не ведае, і ляціць той вецер па свеце, і носіць на сабе скаргі і плачы, і насмешкі надзьмутыя і крыўдныя, і скаргі пераплятаюцца з жалямі, і шкадаванне са смехам напышлівым, і жартам рагатлівым і балючым. Хай не скардзіцца чалавек той лямантам слязлівым, папракаючы лёс, гісторыю і сябе самога, раздзіраючы незагойныя раны і драпіны, шкадуючы таго, што было і не было. (...) Замова ад жалю і болю пячэ мне больш чым яму, ды для таго мяне вятры паставілі пасярод дарог, плячамі да мяжы, тварам да хат, вокам да сонца, вухам на ўсход і захад, сэрцам ва ўсе бакі, адкуль ворaг ціхі і працуйнік грымучы прасціраe чэпкія рукі, настаўляе кішэнь глыбокую як мех бяздонны, на наша зерне, золата думак і радасць дзяцей. Не скаргу кажу, а замову, бо за мову кожнае слова ідзе з рота рота за ротай, і кропля за кропляй, раса за расінай, родную ролю поіць вільготна і вольна. Кармазынам кроплі хай жыляцца, чалавек мой родны не хіліцца. А ціпун на язык без'языкім! Амін!"

Сёлетні „Нарай" быў натхнёны пахвалай. Пахвалай маці, роднай зямлі, краявіду, зямлі, даўніне і будучыні, одуму, Сакрату Яновічу, Беларусі, мове, цацкам і... хваробе, якая спыняе чалавека ў бяздумным бегу нікуды і прастуе сцежкі да ісціны. І хаця пісьменніца пачынала свой сяброўска-творчы з'езд з сумам і жалем, як мабыць апошні, набрала тут сілы ў знясільваючай хваробе і натхнення на новы час.

— Дзякую. Коратка, бо з Нарэек вярталіся ў шасцігадзінную навальніцу, і я ўсё яшчэ стомленая: вельмі, вельмі ўдзячныя мы ўдзельнікам Нараю за вялікае маляўнічае відовішча. Дзякуй Радыё Рацыя і рэдакцыям за істотны ўдзел. Юстыне Артым дзякуй за эфектыўную дапамогу ў кіраванні Нараем. Дзякуй камерам за прыгожыя фатаграфіі. Мне здаецца, што толькі наш Нарай перажыве „канчатковае рашэнне беларускага пытання" ў маёй айчыне праз адняцце фінансавання, што недапушчальна ў Еўропе. Еўропа абараняе векавыя пагранічны. Нарай фінансуе сябе. Мы, людзі культуры, з ужо высмактаным ад нас грашом. Мы павінны перажыць масавае ўварванне ворагаў культуры.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# «Стакротка» - ініцыятар грамадскай працы



Удзельнікі праекта



Айцец Павел Кучынскі расказвае пра гісторыю хрысціянства

У Палічнай ініцыятарам культурнай дзейнасці і грамадскай працы з'яўляецца таварыства «Стакротка». На рэалізацыю праекта «Дзве гміны адна мэта» таварыства сёлета атрымала ад фонду, які падтрымлівае грамадскія ініцыятывы ў Падляшскім ваяводстве, 10 тыс. злотых. Праект пачаўся 15 красавіка, а закончыўся 30 жніўня. У тым часе «Стакротка» арганізавала шмат мерапрыемстваў, у тым ліку велапрабег праз пушчу турыстычным шляхам з Курашава ў Тапіла, экскурсію на турыстычных аўтобусах з наведваннем мячэці ў Крушынянах і манастыра ў Супраслі, інтэграцыйна-пазнаўчую паездку на фурах у Елянскі запаведнік. У мерапрыемствах удзельнічалі не толькі члены таварыства «Стакротка» (іх 19 чалавек), але дзесяткі жыхароў прыпушчанскіх вёсак Палічна, Курашава, Вэрсток, Вілюкі, Старына і Войнаўка. На ўвагу заслугоўваюць яшчэ два мерапрыемствы, арганізаваныя апошнім часам у святліцы ў Палічнай: семінар на тэму падабенстваў і розніц у хрысціянскіх канфесіях ды афіцыйнае падвядзенне вынікаў праекта.

Семінар адбыўся 25 жніўня. Удзельнічала ў ім больш сарака чалавек. Святары праваслаўнага прыхода ў Вэрстоку а. Павел Кучынскі ды рымска-каталіцкай парафіі ў Кляшчэлях кс. Ян Красоўскі расказалі пра падабенствы і розніцы Праваслаўнай царквы і Каталіцкага касцёла. Пасля адбылася прэзентацыя кампакт-дыска пад назвай «Дзве гміны адна мэта» Мар'юша Зазулінскага, які з'яўляецца дакументальным запісам праекта, і працы Дамінікі Карпюк, лаўрэаткі конкурсу «Існуючыя помнікі — гісторыя Уздзвіжанскай царквы ў Вэрстоку». Варта дадаць, што конкурс быў арганізаваны Лакальнай групай дзеяння Еўрарэгіёна «Белавежская пушча», а лаўрэатка атрымала рэчавую ўзнагароду вартасцю ў 700 зл.

Настаяцель Уздзвіжанскай царквы ў Вэрстоку а. Павел Кучынскі, прыпамінаючы гісторыю хрысціянства, сказаў:

— Самай старэйшай рэлігіяй у хрысціянскім свеце з'яўляецца праваслаўе. Да 1053 года была адна рэлігія. Пасля ўзнік раскол, у выніку чаго з'явіўся шматканфесійнасць. Зараз Праваслаўная царква з'яўляецца найбольш рыгарыстычнай.

У ходзе дыскусіі ўдзельнікі ставілі святарам пытанні. Цікавіліся, напрыклад, чым розніцца хрышчэнне ў царкве ад «бежмавання» ў касцёле, як адбываецца рытуал шлюбу ў абедзвюх рэлігіях, чаму ў каталікаў няма перакладзіны на крыжы, што гэтая перакладзіна ў праваслаўных абазначае, да чаго зводзіцца трохступенны запіс у экуменічнай тэалогіі — быць чалавекам, быць хрысціянінам, быць капланам і г.д. На пытанні адказвалі абодва святары. Матушка Кацярына Кучынская расказала пра ролю матушкі ў царкве. У заканчэнні афіцыйнай часткі пеўчыя хору Уздвіжанскай царквы ў Вэрстоку пад кіраўніцтвам Анны Балесты выканалі некалькі трапароў свята Успення Прасвятой Багародзіцы. Мерапрыемства закончылася супольным пачастункам пры каве і гарбаце.

30 жніўня ў Палічнай адбылося афіцыйнае падвядзенне вынікаў праекта «Дзве гміны адна мэта». Мерапрыемства пачалося ў 17:30 на пляцоўцы перад святліцай. Старшыня таварыства «Стакротка» і заадно радная гміны Аліна Зазулінская прывітала гасцей і выказала шчырую падзяку спонсарам за фінансавую падтрымку праекта. За выдатную дапамогу і выданне двухсот штук кампакт-дыска з матэрыялам «Дзве гміны адна мэта» шчырае дзякуй і падарунак у выглядзе шыкарнага календара перадала яна дырэктару Згуртавання самаўрадаў еўрарэгіёна «Белавежская пушча» Яну Хомчуку, бурмістру Кляшчэль Ірэне Негярэвіч, кіраўнікам бельскіх фірм «Унібэп» Ежы Халадоку і «Arriva Bus Transport» Уладзіміру Таранту. Затым арганізатары папрасілі прайсці ў залу святліцы, дзе адбылася прэзентацыя вынікаў праекта. Пасля на пляцоўцы перад святліцай пачалася мастацкая частка. Выступілі маладзёжныя гурты «Малыя» ГДК, ансамбль народнага танца «Перапёлка» і ансамбль сучаснага танца з Гайнаўскага дома культуры, «Струмок» з Дубічаў-Царкоўных, салістка Сільвія Камінская, «Мікстуркі» і «Фантазія» з Кляшчэль. У заканчэнні арганізатары традыцыйна запрасілі публіку на супольны пачастунак.

Ці гэтым мерапрыемствам «Стакротка» закончыць цыкл культурных дзеянняў, пакажа час. Можна спадзявацца, што здабыты вопыт у грамадскай дзейнасці і энтузіязм важакоў таварыства будзе штуршком да актыўнай дзейнасці ў мясцовым асяроддзі ў карысць вясковай супольнасці. Таго ад шчырага сэрца жадае ніжэйпадпісаны.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**




## www.bykau.info

Сёлета споўнілася роўна дзесяць гадоў як пайшоў ад нас Васіль Быкаў. Апошнія гады жыцця пісьменніка былі часам поўнага непрыняцця лукашэнкаўскай улады. І гэта было ўзаемна — не маглі мірна суісnаваць прага да справядлівасці і брахлівае антыбеларускае хамства. Доўгія гады перад смерцю Васіль Быкаў пражыў у эміграцыі, але смерць напаткала яго ў Беларусі — той краіне, для народа якой ён без перабольшвання стаў сумленнем.

Для гісторыі 10 гадоў гэта, канешне, малазначны тэрмін. Але для людской памяці дастаткова, каб многае забыць, многае страціць, многае перастаць заўважаць. Зразумела, уласна творам Быкава наўрад ці пагражае такі лёс, але многія немалаважныя дробязі маглі б згубіцца, калі б не было ў інтэрнэце сайтаў, прысвечаных знакамітаму беларусу.

Адзін з такіх сайтаў, які расказвае пра творчасць пісьменніка, месціцца па адрасе www.bykau.info. Кажучы па шчырасці, даны сайт ужо дзесяць гадоў не абнаўляўся. Але гэткая акалічнасць стварае ўражанне, што ён стаў своеасаблівым віртуальным помнікам Васілю Быкаву.

Выглядае сайт даволі проста. Там няма мноства рубрык, усё вельмі сціпла і някідка. Уверсе на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай імя і прозвішча літаратара з выявай яго партрэтнага фотаздымка. З левага боку галоўнай старонкі месціцца выйсці на рубрыкі сайта, а з правай — невялікі, але і не малы біяграфічны тэкст. Сярод радкоў аб шматлікіх узнагародах у савецкі час за быкаўскую „акопную праўду", ёсць і інфармацыя аб апошнім дзесяцігоддзі жыцця пісьменніка. „Сярэдзіна 90-х нібыта вярнула пісьменніка ў савецкія часы. Шырокая траўля ў дзяржаўнай прэсе, забарона, цэнзура на выхад яго новых твораў, пагаршэнне на гэтай глебе здароўя вымусілі Быкава пакінуць Радзіму. Некалькі гадоў ён жыў за мяжой. У снежні 2002 года Васіль Быкаў пераехаў на сталае жыхарства ў Чэхію. Тады пісьменнік сказаў, што ён „даўно марыў пасяліцца ў Чэхіі, заўсёды меў сімпатыю да гэтай краіны і яе грамадзян". У рашэнні праблемы пераезду Быкава ў Чэхію актыўны ўдзел прымала канцылярыя чэшскага прэзідэнта і асабіста Вацлаў Гавел. Некалькі апошніх гадоў Герой сацыялістычнай працы, лаўрэат Ленінскай прэміі, народны пісьменнік Беларусі пражываў у ФРГ, а да гэтага ў Фінляндыі", — распавядаецца ў тэксце.

Вельмі важнай часткай сайта з'яўляецца рубрыка „Артыкулы", дзе месціцца перадрукоўкі разнастайных газетных і часопісных тэкстаў пра Васіля Быкава. Іх там вельмі многа, але яны ахопліваюць толькі апошнія гады жыцця пісьменніка і 2004 год, калі Быкава ўжо не было сярод жывых.

Сярод артыкулаў варта вызначыць тэкст Сяргея Навумчыка, колішняга дэпутата беларускага парламента, які сабраў важныя выказванні пісьменніка і патрыёта адносна дзяржаўнага лукашэнкаўскай улады. Адным з найбольш трапных падаецца такое: „Калі б Беларусь была менавіта незалежная, няхай бы яна была бедная, неразвітая, адсталая ці слаба развітая — але калі б яна мела незалежнасць, усё астатняе прыклалася б. А пакуль што яна не Беларусь, яна простаператвараецца ў чарговую губерню Расеі. Хіба не пра гэта сведчыць уся палітыка сучаснага беларускага рэжыму?".

У гэтых словах — сум і горыч Васіля Быкава, які бачыў незайздросную будучыню сваёй радзімы.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

### Пад сцягам хрысціянства

# 330 гадоў з дня бітвы пад Венай

12 верасня 1683 года на тэрыторыі Еўропы адбылася бітва, якая вызначыла лёс многіх дзяржаў і народаў нашага кантынента на стагоддзі. Да сярэдзіны XVII стагоддзя Асманская імперыя заваявала паўднёва-ўсходнюю Еўропу. У 1672 годзе турэцкія войскі напалі і на Рэч Паспалітую, захапіўшы Камянец-Падольскі і Падолле — землі сучаснай Украіны. У пачатку 1683 года турэцкія войскі прыбылі ў Бялград, а затым пайшлі на Вену. У знак падтрымкі саюзнік Габсбургаў кароль Рэчы Паспалітай Ян III Сабескі летам прыбыў у сталіцу Аўстрыі, да якой ужо падбіраліся заваёўнікі. Агулам еўрапейская кааліцыя налічвала каля 70 тысяч чалавек. Войска Асманскай імперыя перавышала войска кааліцыі фактычна ў два разы.

У пачатку верасня польска-літоўскае войска перайшло Дунай і злучылася з астатнімі сіламі Святой Лігі, дзеянні якой благаславіў папа Інакенцій XI. У той час 5 тысяч турэцкіх сапёраў падарвалі значныя ўчасткі гарадскіх сцен Вены, у выніку чаго ўтварыліся прамежкі шырынёй у некалькі метраў. 8 верасня туркі занялі Бургскі равелін і Нізавую сцяну. Добра арганізаванае супольнае войска Рэчы Паспалітай і ВКЛ ужо праз тры дні здолела падысці да Вены. Раніцай 12 верасня саюзнікі былі гатовыя да бітвы.

Бітва пачалася 12 верасня. У 4 гадзіны раніцы туркі першымі атакавалі саюзнікаў, каб перашкодзіць ім як след размеркаваць свае сілы. Аўстрыйцы контратакавалі з левага флангу, а немцы атакавалі цэнтр туркаў. Тады вялікі візір Кара-Мустафа таксама контратакаваў, а частку элітных янычарскіх падраздзяленняў пакінуў для штурму горада. Турэцкія сапёры пракапалі тунель для падрыву сцен, а пакуль яны ліхаманкава засыпалі яго, для ўзмацнення выбуху, аўстрыйцы паспелі пракапаць сустрэчны тунель і ў час нейтралізаваць выбух.

Кавалерыя Рэчы Паспалітай здзейсніла магутны ўдар па правым флангу туркаў. Апошнія ж зрабілі асноўную стаўку не на разгром саюзных войскаў, а на тэрміновы захоп горада.

Пасля 12 гадзін бітвы польска-літоўскае войска працягвала трывала трымацца на правым фланзе туркаў. Прыкладна ў 17 гадзін вечара падзеленая на чатыры часткі кавалерыя, якая дагэтуль заставалася ў рэзерве, пайшла ў наступ. 20 тысяч кавалерыстаў пад асабістым камандаваннем Яна Сабескага спусціліся з пагоркаў і прарвалі шэрагі туркаў, і без таго моцна змучаных пасля цэлага дня бітвы на два франты. Хрысціянскія вершнікі ўдарылі па турэцкім лагеры, адначасна гарнізон Вены выбег з горада і далучыўся да бітвы.

Асманскія войскі былі не толькі фізічна выматаныя, але і псіхалагічна падаўленыя. Атака кавалерыі прымусіла іх адступіць на поўдзень і на ўсход. Менш чым праз тры гадзіны пасля нападу сваёй кавалерыі хрысціяне атрымалі поўную перамогу. Кара-Мустафа, які ўцёк, быў неўзабаве пакараны смерцю ў Бялградзе.

У бітве пад Венай бралі ўдзел прадстаўнікі многіх ліцьвінскіх родаў. Прыкладам Марцыян Рэйтан. На жаль, беларускія гісторыкі вельмі мала напісалі пра гэтую бітву.

Бітва пад Венай спыніла турэцкае нашэсце на Еўропу, многія хрысціянскія землі былі пасля яе вызваленыя, пачаўся занепад Асманскай імперыі. Род Габсбургаў заняў у Еўропе цэнтральнае месца.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Час герояў і сапраўднай любові

Сёлетні год для Крынак асабліва багаты ў гістарычныя ўспаміны. Звязана гэта перад усім з гадавінай выбуху Студзеньскага паўстання 1863 года. Крынская зямля асабліва пракормлена кроўю паўстанчых ахвяр. Даволі доўгім з'яўляецца спісак імён мясцовых удзельнікаў паўстанчага руху. У іх ліку — прадстаўнікі славутага роду Карыбут-Дашкевічаў. Род гэты валодаў, між іншым, двума маёнткамі — у падкрынскай Гурцы і ў Вайцяхоўшчыне, званай Войчынай, якая цяпер знаходзіцца ў межах Рэспублікі Беларусь. Платон Карыбут-Дашкевіч — галоўны памешчык, на два гады папаў у гродзенскую вязніцу, скуль цяжка хворым вярнуўся дахаты. На бацькаўшчыну ніколі ўжо не з'ехаў сваяк Платона, Конрад Карыбут-Дашкевіч. Пра нялёгкі лёс апошняга расказала Цаліна Бах-Шчавінская — любіцелька гісторыі Крынак і наваколля.



Магіла Карыбут-Дашкевіча на касцельным дзядзінцы ў Крынках

— У час адной з паўстанчых сутычак Конрад Карыбут-Дашкевіч быў ранены і ўзяты царскім войскам у няволю. Там прысудзілі яго да смяротнага пакарання. Затрывожылася ўся радня і сябры зняволенага малайца. Заплакала моцна ў ім закаханая двараданая сястра Тося з маёнтка Орля над Нёманам. Шаснаццацігадовая дзяўчына для выратавання любімага рашыла прысвяціць усё сваё жыццё. Дзякуючы намаганням яе і бліжэйшай сям'і Конрад застаўся ў жывых. Смяротнае пакаранне ласкава замянілі яму на пажыццёвую ссылку ў капальню серабра ў Серабранцы непадалёк Табольска. Да такога ходу справы спрычыніліся і біяграфія засуджанага. Яшчэ да выбуху паўстання Конрад быў студэнтам Пецярбургскага ўніверсітэта. У часе вучобы падтрымліваў ён ажыўленыя кантакты з пратэктаркай універсітэта, кузінай цара, княжной Вольгай. Менавіта да яе сям'я і сябры зняволенага накіравалі пісьмо з просьбай аб дапамозе ў вызваленні Конрада ад смяротнага пакарання. Княжна не адмовілася ад пратэкцыі і падтрымкі былога падапечнага нават у так складаных абставінах. Конрада перавялі ў Пецярбургскую вязніцу. Услед за ім захацела падаца і закаханая Тося. Дзяўчына прыняла безадкладнае рашэнне выйсці за яго замуж. Маці ў яе не было, а бацька і цётка не змаглі ніякім спосабам адмяніць рашэння дзяўчыны. Нейкім чынам удалося сарганізаваць дазвол на шлюбную цырымонію, пасля чаго Тося разам са сваёй няняй выправілася ў далёкі свет у пошуках любімага. Шлюб Антаніны і Конрада адбыўся у пецярбургскай турэмнай камеры. Неўзабаве вывезлі іх у табольскую Серабранку. Там, у 1866 годзе нарадзіўся іх сын Багдан Карыбут-Дашкевіч. Плод іх любові вырас на славу бацькам і карысць людзям. Стаў ён вядомым і шанаваным педыятрам. Багдану ўдалося пераехаць у Варшаву, дзе паспяхова працягваў медыцынскую практыку. У Варшаве жыве яшчэ праўнук Конрада і Антаніны, ахоўнік сямейных памятак і традыцый. Менавіта дзякуючы яму храбрыя прадзеды застануцца жывымі назаўсёды.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Дажынкавы фэст у Нараўцы

Пры цёплым сонечным надвор'і ў нядзелю, 8 верасня г.г. у Нараўцы (Гайнаўскі павет) адбыўся дажынкавы фэст. А 10 гадзіне пачаліся турнір салэцтваў і спаборніцтвы добраахвотных пажарных каманд. А 15 гадзіне сабралася шмат людзей і тады на стадыёне пачалася экуменічная малітва.

Імпрэзу адкрыў войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч. Ён прывітаў запрошаных гасцей з Гайнаўскага павета і з Беларусі, у тым ліку мэра горада Высокае Лявона Бірука. Войт падзякаваў земляробам Нараўчанскай гміны за паспяховае заканчэнне жніўных прац. Затым уручыў значкі „Заслужаны для сельскай гаспадаркі" Яну Драўноўскаму, Уладзіміру Кічкалюку, Міхалу Леанеўскаму, Тамары Мароз, Яўгену Сапёлку, Андрэю Скепку, Яраславу Стоцкаму, Віталю Сухадолу, Галіне Вяжхоўскай і Яўгену Валкавыцкаму.

Важным спаборніцтвам быў турнір салэцтваў. У ім перамагла каманда з Новага Ляўкова (солтыс Янка Целушэцкі). Другое месца заняло салэцтва Нараўка (солтыс Валянціна Пацэвіч) і трэцяе — салэцтва Заблотчына (солтыс Галіна Вяжхоўская). Найпрыгажэйшы дажынкавы вянок быў з Семяноўкі. Другое месца камісія прызначыла вянку з Нараўкі.

Былі ўручаны дыпломы ўдзельнікам конкурсу „На найпрыгажэйшыя сялянскія сядзібы ў Нараўчанскай гміне ў 2013 годзе". У катэгорыі „пярэдняя частка сялянскага двара — дом і агародчыкі" першае раўнапраўнае месца занялі Лена Харкевіч з Плянты і Валянціна Германюк са Скупава, другое раўнапраўнае месца атрымалі Вольга Русак з Янова і Яўген Рэент са Скупава, трэцяе — Галена Бароўская з Заблотчыны. У катэгорыі „сялянская сядзіба" першае месца заняла Міраслава Бортнік са Свінарояў, другое — Зіна Раманчук з Альхоўкі і трэцяе месца — Анатоль Матысюк з Семяноўкі.



„Катрынка" з Высокага

Была і нагода ўручыць узнагароду Камілю Байко з Нараўкі. Ён удзельнічаў у параалімпіядзе ў Сеуле і здабыў сярэбраны медаль у бегах на лыжах. Ён атрымаў такі веласіпед, аб якім марыў.

Былі аб'яўлены вынікі спаборніцтваў пажарных каманд. Першынство заваявала каманда з Семяноўкі, другое месца заняла каманда з Нараўкі і трэцяе — каманда са Старога Ляўкова.

У мастацкай частцы паспяхова выступілі „Нараўчанкі" і дзявочае трыо з Нараўкі, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, тры калектывы з Беларусі — „Гасцінец" з Гродна, „Вербніца" з Пружан і „Катрынка" з Высокага. З вялікім захапленнем гледачы выслухалі выступу шырокавядомых спевакоў Міхала Скепкі (тэнар) і Аляксандры Акрасы (сапрана) з аркестрам „Медыум" з Гродна. Спявалі яны і двойчы на „біс".

Падчас дажынкавага фэсту можна было агледзець выстаўкі народнага рукадзелля. Для дзяцей было арганізавана г.зв. вясёлае мястэчка. І тут яны добра гулялі.

А гадзіне 20 успыхнулі пад неба феерверкі і пачаліся танцы пад гукі аркестра „Ас" з Беластока.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

# Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. сказ Карана, частка суры = 20 _ 1 _ 13 _;
2. самец буйной рагатай жывёлы = 21 _ 24 _ 2 _;
3. карэйская грашовая адзінка = 9 _ 10 _ 15 _ 18 _;
4. доўгая шырокая адзежына ў выглядзе плашча = 5 _ 6 _ 3 _ 11 _ 12 _ 4 _;
5. іспанскі народны танец = 8 _ 22 _ 23 _ 7 _;
6. драўляны хамут для вала = 16 _ 19 _ 17 _ 14 _.

(ш)

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | |
| 13 | 14 | | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 32 нумара**

Баец, гляк, патрыярх, Саяны, бег, Карэя, кабзар, Зея, хваля, стыль, арабеска, збан.

Рашэнне: **Песня без канца як кабыла без хваста**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Казімеру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 15.09 — 21.09

**(22.03. — 20.04.)** Да 17.09. адкрыюцца перад табою новыя магчымасці, знойдзеш рады як справіцца з праблемамі. Час 15-19.09. спрыяе хуткай рэалізацыі планаў і перакананню іншых да тваіх задум; добры час на хуткія прыёмы. 17-19.09. ідэальны час на падпісванне дамоў. 18-20.09. могуць крыху паблытацца сямейныя справы (можа выявіцца твой сакрэт). Важныя негацыяцыі перакладзі на 19 (да 23.09).

**(21.04. — 21.05.)** Венера заахвочвае цябе да руху, тым больш што цяжка будзе вытрымаць на нейкай дыеце. Свежае паветра ўзмоцніць тваё горла. У кар'еры паскорыцца бег падзей. Не рашай важных спраў у афекце, непрадумана; калі возьмешся ў рукі, шмат можаш выйграць. Хутка гэта значыць паспех у фінансах — 15-19.09. Прыйдуць у галаву нетыповыя вырашэнні і будзе адвага для іх рэалізацыі. Затое магчымы 16-20.09. крызіс у пары; не паддавайся.

**(22.05. — 22.06.)** 15-19.09. час спрыяе добрай арганізацыі. Не пагражаюць табе спазненні ці перастоі. З 18 (да 22.09.) у пачуццях мілыя размовы, калі ты нядаўна ў пары, спадзявайся канкрэтных прапаноў і дэкларацый. Маеш шанц пачаць рэалізаваць свае прафесійныя планы, натрапіш на зычлівых і ахвотных да дапамогі людзей. Справы ў кар'еры будуць ісці няхутка, але ўперад. 18-20.09. будзь асцярожным у інвестыцыях; пагражае канкурэнцыя, а нават страты. 14-18.09. раптоўныя змены і расчараванні ў надзеях.

**(23.06. — 23.07.)** Багацце пачуццяў і абавязкаў. Карыстайся гэтым! Шмат радасці ад працы. Выкарыстай змены. Расправіш крылы ў кар'еры. На важныя размовы ідзі 16-18.09. Самотныя Ракі могуць сустрэць кагосьці; час пакажа, ці гэта будзе штосьці больш сур'ёзнае. Дома трэба будзе прыняць працягнутую руку сваякоў. Старайся адмовіцца ад ласункаў. 15-17.09. інвестуй. 19.09. будзеш знерваваны, разгублены. З 19 (да 27.09.) пільнуй дэталяў.

**(24.07. — 23.08.)** Не пускай дзяцей самапасам, бо за тваёй спіной насваволяць, асабліва 19-21.09. Пагражаюць табе раны і кантузіі. Старайся варушыцца, добра высыпайся і здарова еж. На працы нічога не вырашай неабдумана. Лепш не ўваходзь у суполкі.

**(24.08. — 23.09.)** Добрае здароўе. 15-19.09. хуткія і трапныя рашэнні. Супрацоўнічай. Асцерагайся інвестыцый і больших пакупак. 15 і 16.09. не паддавайся ніякім намовам. Поўня Месяца 19.09. прадбачваецца няміла — хтось ілюзорна зычлівы табе можа цябе абдурыць.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш інтэлігентны і кемлівы. Ды да 16.09. нават дробныя непаразуменні могуць папсаваць табе настрой. Час 16-20.09. не спрыяе доўгатэрміновым планам. Дома віры, можаш даведацца чагосьці, чаго не хацеў бы ведаць, і хаця тыя, хто цябе параніў, схочуць справу палагодзіць, цяжка будзе табе пра гэта забыцца (17-21.09.). А ашчаднасць (16-20.09.) можа стаць з неабходнасці тваім захапленнем!

**(24.10. — 22.11.)** Можаш спазнаць розныя смакі кахання. Дома сітуацыя палагодзіцца. 15-17.09. твае рашэнні будуць вельмі трапныя. З 20.09. будзеш адчуваць пагрозу, ды нічога не бойся. Маеш шанц перамагчы ў „гонцы пацукоў", а канкурэнцыя толькі заахвоціць цябе да барацьбы.

**(23.11. — 22.12.)** 16-20.09. можа аказацца, што тое, што цябе сустрэла ў мінулым, не пайшло ўпустую. Можа, прыйдзецца паплаціцца за памылкі. Але будзе шмат нагод пагуляць, пасустракацца. Няміла могуць дакучыць дзеці. Не бяры крэдытаў. З 19 (да 23.09.) — найлепшы час на інвеставанне!

**(23.12. — 20.01.)** Самотныя Казярогі няхай дзейнічаюць на інтэрнэтных сайтах. 16-20.09. маеш шанц сцішыць дома ўсе спрэчкі і ўвесці атмасферу паразумення, пазбегчы памылак. Не барaніся перад новым пачуццём. З 18 (да 24.09.) вельмі ўдалы час. Можаш даць па носе камусьці, хто чакаў тваёй згубы.

**(21.01. — 19.02.)** 15-17.09. можаш падумаць аб змене дзейнасці ці працы. 14-18.09. не плануй ніякіх падарожжаў. 17-21.09. маеш шанцы аднавіць сямейныя сувязі. 18-22.09. памятай, што зашмат — то нездарова.

**(20.02. — 21.03.)** Бура пачуццяў. Сінглы няхай не накіроўваюць сваіх пачуццяў на кагосьці, чыя краса ілюзорная. Будзеш вельмі апякунчы. На жаль, твая кар'ера можа стаць у мёртвай кропцы, што схочаш — пакуль не здабудзеш, а дасягненні не будуць цябе цешыць (адчакай благі час). Вельмі нервовае 19 верасня.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 100 egz.

Сімвалічнай лініяй, мяжуючай нашы тутэйшыя Усход і Захад, лічыцца шаша з Бельска-Падляшскага ў Сямятычы. Злажу з аўтобуса ў Кнарыдах і зараз, на перасячэнні тамашняй вясковай вуліцы са згаданай шашою, стаяць сімвалы спаткання гэтых самвалічных частак свету — „заходні” і „ўсходні” абярэжныя крыжы. На першым з іх надпіс „Jam jest drogą prawdą i życiem Knorydy 1993 r.”; на другім „Спаси и сохрани от голода губительства огня меча и смертоносных ран жителей дер. Кнорыд 1977 г.”



# У шляхецкі бок

Крыж каля Завад

Кіруюся ў „ляцкі” бок. За агароджай аднаго з панадворкаў стаіць стары каменны крыж, на якім да змястоўнага надпісу, выкананага ў сівую даўніну руплівым каменшчыкам, унеслі свае дадаткі прыродныя стыхіі, у выніку якіх частка тэксту стала нечытальнай. Але аснова захавалася: „Со святыми упокой Христе души усопшаго раба Твоего Даниила Святый Боже святый крепкий святый бессмертный помилуй нас Погребенные безутешною скорбию дети крестьянина деревни Кнориды Даниила Францовича ... Борис Петр ... Евфимия Агафия и Параскева”.

У ціхім засені дрэў пакоіцца пажарнае дэпо. За будынкам дрэмле воды рэзервуар зацягнуты зялёным саванам, у якім плавае некалькі дзесяткаў яблыкаў з суседняга садка. Насупраць аплецена зеленню запушчаная вялікая хата з прыгожымі аканіцамі. Перад адгалінаваннем дарогі ў Старое Сяло высіцца моцна выветраны векавы драўляны крыж, абаперты аб ссечаны ствол, бадай грушы — усё абраслае густым вінаградам. На адгалінаванні цэментны абярэг з такім жа стандартным „усходнім” надпісам, што і ў цэнтры вёскі. Насупраць стары „заходні” драўляны крыж са шматлікімі цвікамі ад мацавання крыжавых аздоб.

Зараз за вёскай, пры жвіроўцы ў напрамку Завад, чарговы цэментны абярэг з вершаваным надпісам „W krzyżu cierpienie/ w krzyżu zbawienie/ w krzyżu miłości nauka/ kto Ciebie Boże/ raz pojąć może/ ten nic nie pragnie ni szuka”. Ад гэтага крыжа відаць два чарговыя сакральныя аб'екты: ад усходу размаляваную ў блакітны колер капліччку над гаючай крынічкай, з якой няспынна выплывае жыватворная вадзічка. І ад захаду размаляваную ў карычневы колер могільнікавую капліцу; а. Рыгор Сасна: „Obecna cerkiew Matki Bożej Wszystkich Strapionych Radość poświęcona została 30 stycznia 1873 r. Zbudowana z drewna, za środki mieszkańca tej wsi Pawła Cara, miała wartość 650 rubli, nie licząc własnej roboty. W Grodnenskom Kalendare z 1899 r. odnotowano, że ... w nej imietsja mesto osobennočtimaja ikona Presvjatoj Bogorodicy Vsech Skorbjaščich Radosť. K kotoroj byvaet osobenno ves'ma značitel'noe stečenie bogomol'cov, pravoslavnych i inoslavnych v 10 pjatnicu posle prazdnika Svetlago Voskresenija Chrystova, kogda soveršaetsja iz cerkvi sej krestnyj chod k istočniku, nachodjaščemusja vblizi cerkvi počitaemu za svjaščenno-celebnyj.”

Кіруюся ў напрамку Завад і на чарговым разгалінаванні дарог выбіраю больш уезджаную, якая вядзе побач даўняга, неіснуючага ўжо, маёнтка Кнарыды і пераходзіць у лясную, крыху забалочаную жвіроўку. Усё ж такі даходжу да Завад. Перад вёскай зноў крупінка паэзіі на цэментным абярэгу: „Pobłogosław nam, o PANIE, oddal od nas TWE karanie, broń od moru głodu wojny, daj nam JEZU czas spokojny.” Пры расходных дарогах у цэнтры вёскі драўляны крыж з прыбітай да яго выявай Вастрабрамскай Маці Божай...

Даведнік „Рэлігія і Царква на Беларусі” так піша пра выяву: „Вастрабрамскі абраз Маці Божай — адна з галоўных хрысціянскіх святынь у Літве і на Беларусі. Ушаноўваецца каталіцкай і праваслаўнай царквамі. Уяўляе сабой паясную выяву Дзевы Марыі без Дзіцяці, на фоне Месяца. Існуе таксама легенда, што прататыпам для абраза паслужыла Барбара Радзівіл, незвычайная прыгажосць і драматычны лёс якой зрабілі яе легендарнай асобай. Шырокую славу абраз набыў у 1702 г. пасля паражэння шведаў, якія спрабавалі яго папсаваць. У шанаванні Вастрабрамскай Маці Божай аб'ядналіся рыма-каталікі і ўніяты, імшы служыліся па лацінскаму і грэчаскаму абрадах. У XIX ст. Вастрабрамская Маці Божая стала лічыцца патронкай зямель былога ВКЛ, культ абраза набыў патрыятычны сэнс, прапагандыстам яго стала інтэлігенцыя. Свята абраза па праваслаўнаму календары 26 снежня па старому ст.”

У мяне з'явілася яшчэ іншая асацыяцыя з Вільняй. Польскі аўтар Ежы Кірхмаер у сваіх мемуарах санацыйнага перыяду быў пісаў пра нацыянальную тапаграфію Вільні — што горад быў акружаны беларускамоўнымі вёскамі, сярод якіх толькі вузкі кліночак літоўскамоўных прабіваецца да сталіцы. Падобная ж сітуацыя ўзнікла і кругом Бельска-Падляшскага, дзе вузкі кліночак польскамоўных вёсак падыходзіць ад захаду: Петшыкова, Завады, Балесты, Скшыпкі, Шумкі...

Польскі гісторык Ежы Вісьнеўскі быў піcaў: „Województwo białostockie jest przecięte dość szeroką strefą wzajemnego nachodzenia na siebie ludności polskiej i ruskiej, przechodzi więc również przez nie granica między Słowianami Zachodnimi i Wschodnimi. Już w XV w. ostatecznie ukształtowała się wschodnia, dość kręta granica osadnictwa mazowieckiego. Jego zwarty teren wytyczają następujące wsie: Falki-Filipy, Warpechy, Niewino Stare, Malinowo, Łubin, Pietrzykowo, Wiercień, Jakubowskie, Piotrowo-Krzywokoły, Malewice, Wiercień Wielki, Krasewicze, Korzeniówka, Sady, Wierzchuca.”

Галоўным носьбітам мазавецкага асадніцтва на Падляшшы была дробная шляхта: „Jak głosi ludowe podanie, diabeł zebrał raz do worka grzeszną szlachtę i niósł ją do piekła, ale worek się rozdarł i szlachta wysypała się na Podlasie” — пісаў іншы аўтар Гжэгаж Лысь.

Зыгмунт Глогер: „Zamożność rośnie, szum puszczy przemienia się w falę kłosów na łanie, szlachta karczuje bory, dziedziczy ziemię na prawie wieczystem, używa takich swobód i nadań jak panowie, a jej szybkie rozradzanie się jest dowodem dobrobytu. Żartują z niej wprawdzie sąsiedzi: że szlachcic podlaski ma piasek, lasek i karaski, że choć nieraz ma fortun sześć, ale niema co jeść, że gdy pies usiądzie na jego dziedzictwie, to już ogon musi położyć na drugiem, że czyja kosa pierwsza, tego łąka szersza i.t.d. Na to odpowiada Podlasianin, choć w łapciach ale z kordem przy boku: że szlachcic na zagrodzie jest równy wojewodzie i choć nie umie pisać i czytać ale królem może zostać, że fortuna jego nie szeroka ale głęboka i wysoka.” А далей: „Gdy w wieku XVII i później, szkoły utrzymywali Jezuici, widzimy w nich na Podlasiu i Mazowszu natłok ubogiej szlachty wstępującej potem już to do palestr lub stanu duchownego, już to powracającej na zagon ojcowy. Że zaś Jezuici w łacinie szczególniej młódź ćwiczyli, stąd pospolitą było rzeczą, iż ze szlachcicem, co szedł za pługiem można było rozmówić po łacinie jak po polsku, a w każdym domu znaleźć polskie i łacińskie książki, tudzież skrzynkę z łacińskimi papierami tyczącemi się dziedzictwa i prawa. Szlachta ta, najstarsza może u nas, dostarczała w dawnych wiekach najwięcej ludzi do obrony granic Rzeczypospolitej, uważając służbę rycerską nie za zasługę ale za obowiązek. Ubóstwa nigdy się nie wstydziła, szczycząc się że dźwiga pług i miecz zarazem.”

Патомкі апісанай Глогерам шляхты жывуць зараз у згаданых раней вёсках, што вузенькім кліночкам падыходзяць з захаду



Каплічка ў Якубоўскіх

да Бельска-Падляшскага. І здаецца, што па сённяшні дзень не саромяцца яны адвечнага земляробства. Над згаданымі вёскамі лунае пах вясковага гаспадарання, пах масавай прысутнасці сельскагаспадарчай жывёлы. У такім клімаце адбываецца вытворчасць таго ўсяго харчавальнага багацця, якое вабіць спажыўцоў прыгожымі ўпакоўкамі ў гарадскіх крамах. І патомкі тае легендарнае шляхты не цураюцца спадчыннага лёсу, бо менавіта шляхта мае пільна шанаваць унаследаваную ад продкаў сваю спадчыну. На вясковай вуліцы можна там пабачыць сялян адно ў кабінах трактароў...

У Балестах звяртае ўвагу мажны будынак па былой школе. Яшчэ пару гадоў таму там адбывалася навучанне, але зараз яно перанесена ў іншыя школы; дзеці са шляхецкіх вёсак Бельскай гміны вучацца ў падставоўцы ў Лубіне-Касцельным, а з мужыцкіх — у Ягуштове. Гмінны партал так піша пра Балесты: „Pierwsze dane o istnieniu tej miejscowości pochodzą z 1528 roku. Przez wieki mieszkała tu polska szlachta zagrodowa, przez co miejscowość zachowała katolicki charakter, nawet w czasach zaboru rosyjskiego.” Пра каталіцкі характар вёскі сведчыць і новенькі мармуровы помнік Яну Паўлу ІІ, пастаўлены два гады таму побач руплівa аднаўленай вясковай святліцы, прыступкі да якой, так як і паўсюдна, зарастаюць травой. *Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага* так быў пісаў пра род Балестаў: „Bolesta, starodawne imię i nazwisko licznego bardzo rodu, który dał początek setkom rodzin polskich. Głównym gniazdem nich było Płockie, gdzie większa część województwa zostawała w ich ręku, lecz rozpostarli się zresztą po wszystkich prowincyach dawnej Polski. Nazwa tego rodu stała się źródłosłowem takich nazw miejscowych jak: Bolesty, Boleszczyn, Boleszczyce”

Перад Альшэвам, што ў Боцькаўскай гміне, магілка дваццаці чатырох нямецкіх салдат, што загінулі ад рускіх у час Першай сусветнай вайны. Побач яе адмысловы стэнд, а на ім сказ: „Jeśli zadumałeś się choć przez chwilę nad niepotrzebną śmiercią młodych ludzi — jesteś wrażliwy”; хацелася б, каб гэтая ўражлівасць мела шырэйшы абсяг... З іншага боку Альшэва, ад Боцькаў, прыдарожны крыж і таксама стэнд з інфармацыяй, што там у 1885 годзе загінуў ксёндз Раймунд Зарэмба. І, як гэта з таямнічай смерцю духоўных асоб бывае, ёсць не тое што намёк, але проста ўказанне віноўнікаў; гэта такая творчая ініцыятыва. Дарэчы, творчы дух праяўляецца ў даволі неспадзяваных абставінах: у вёсцы Якубоўскія аднаго гаспадара, мабыць, захапіла абаронная архітэктура, бо хату сваю ўпрыгожыў круглымі барбаканнымі вежамі...

■ **Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960